ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№12 (105)
снежань 2019 год
CATHOLICNEWS.BY

# Са Святам Божага Нараджэння!



**Віцебск,**
**Божае Нараджэнне 2019 г.**

**Дарагія браты і сёстры ў Хрысце, паважаныя суайчыннікі!**

І вось мы зноў з радасцю сустракаем Свята Божага Нараджэння. Падзею, што сталася ў невялічкай паўднёва-ўсходняй краіне, у непрыкметным мястэчку, і ўжо тым больш у зусім не ўтульных умовах. Такім чынам спраўдзілася старадаўняе прароцтва: "І ты, Бэтлеем, зямля Юды, нічым не меншы сярод гарадоў Юды, бо з цябе выйдзе Правадыр, Які будзе пасвіць народ Мой, Ізраэля" (Мц 2,6). Словы, якія цытуе Евангелле паводле Св. Мацвея, паказваюць, што Бог нікога не выключае са свайго збаўчага плану і Яму любы кожны, нават найменшы закутак на нашай планеце.

Да такіх куткоў належыць і наша Краіна. Да тых месцаў, дзе Божае Слова прагне стацца целам, належыць кожнае нашае сэрца, кожны наш дом. Няхай яны будуць адкрытыя на Божую праўду і няхай у кожным вашым сэрцы заяснее Святло Хрыста- Нованароджанага Збаўцы!

І тое нястрашна, што гэтае сэрца не зусім яшчэ падрыхтаванае, што ў ім, можа, яшчэ зашмат непарадку, злосці, сумневу. Яно патрабуе Святла! Божага Святла, якое ачышчае, гоіць і залечвае раны, якое супакойвае і ўлівае радасць. Асветленае зззяннем Бэтлеемскай зоркі, людское сэрца пачынае разумець сваю годнасць, пачынае бачыць сэнс свайго існавання, становіцца здольным бараніць тое, што дадзена яму Богам. Таму гэтае святло так прыцягвала пастушкоў, якія вартавалі ўначы свой статак. Мудрацоў, якія ішлі здалёк, каб ушанаваць Спрадвечную Мудрасць, а нават жывёл, што сталі сведкамі такой незвычайнай Падзеі.

Ці мы неабыякавыя да гэтага Святла? Адкрыем перад Ім свае сэрцы, каб Бог, "...Які ёсць, Які быў і Які прыходзіць, Усемагутны" (пар. Ап.1,8), не вымушаны стаў шукаць сабе іншае месца, каб яго берагчы і яму блаславіць. Няхай Ён, пасяліўшыся ў нашых сэрцах, беражэ і ахоўвае нашую Краіну, дазваляючы нам жыць у ёй свабодна і шчасліва! Няхай дае нам мудрасць, каб мы цанілі тое, што маем, і былі адважнымі шукаць шляхі змяніць тое, што гэтых зменаў патрабуе!

Са Святам Божага Нараджэння!

**+ Алег Буткевіч**
**Біскуп Віцебскі**



## Дыяканскае пасвячэнне ў Глыбокім

Стар. 2



## Святы Мікалай

Правер свае веды ў новым тэсце

Стар. 7



## Как распознать приближение конца света?

"Согласно Священному Писанию, три знака предварят пришествие Господа: возвещение Евангелия во всех уголках мира, заключительное испытание Церкви и обращение евреев"

Стар. 11





# Біскуп Алег Буткевіч удзяліў дыяканскае пасвячэнне Яўгену Шымановічу



7 снежня ў Глыбокім з рук Яго Эксцэленцыі Алега Буткевіча, біскупа Віцебскага, клерык Яўген Шымановіч атрымаў дыяканскае пасвячэнне.

**Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*

Ва ўрачыстай Літургіі прынялі ўдзел канцлер Віцебскай дыяцэзіі ксёндз-канонік Віктар Місевіч, святары і клерыкі з Віцебскай і іншых дыяцэзій, бацькі, хросныя, родныя і сябры.

Семінарыст Яўген Шымановіч нарадзіўся 8 студзеня 1991 года. Паходзіць з парафіі Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса і св. Андрэя Баболі ў Мінойтах (Лідскі дэканат, Гродзенская дыяцэзія). Працаваў праграмістам і за плячыма мае навучанне ў Мінскім катэхетычным каледжы. Затым была вучоба ў Філасофска-багаслоўскай Акадэміі Бэнэдыкта XVI у Хайлігенкройцы (Аўстрыя). Там жа праходзіў фармацыю ў духоўнай семінарыі, належыць да супольнасці "Сям'я Бога Айца" ў Аўстрыі. Інкардынаваны ў Віцебскую дыяцэзію.

Хайлігенкройц – адзін з самых вялікіх сярэднявечных манастырскіх архітэктурных комплексаў свету, якія захаваліся да нашага часу. Кляштар належыць ордэну цыстэрцыянаў, заснаваны ў 1133 годзе.

На самым пачатку Літургіі біскуп Алег заклікаў прысутных ахапіць малітвай клерыка Яўгена, які робіць важны крок у сваім жыцці. "Яшчэ адзін чалавек, які адчуў у сэрцы пакліканне і адважыўся сказаць Пану Богу "так". Няхай сёння Езус умацуе яго сваёй ласкай!"

Пасля Літургіі слова кс. Мікалай Ціхановіч, які з'яўляецца адказным за выхаванне і фармацыю будучых святароў Віцебскай дыяцэзіі, звярнуўся да біскупа з просьбай удзяліць пасвячэнне дыяканату і засведчыў, што кандыдат падрыхтаваны і гатовы прыняць пасвячэнне.

> Вер у тое, што прачытаеш! Навучай таму, у што паверыш! Жыві так, як будзеш навучаць!

Гамілію прамовіў пастыр дыяцэзіі. На пачатку іерарх прыгадаў, што азначае быць дыяканам.

"Вялікая адказнасць ускладаецца на дыякана, і цэнтр вагі яго паслугі складае Божае слова. Абвяшчаць, тлумачыць, пераконваць, выкладаць Святое Пісанне", – падкрэсліў біскуп Алег і, звярнуўшыся да семінарыста Яўгена, заклікаў памятаць, што не пачутае нас пераконвае, але прыклад і сведчанне жыцця. Ардынарый пажадаў кандыдату святасці жыцця,



паслугі, бо ў гэтым будзе заключацца эфектыўнасць абвяшчэння.

"Годнасць паслугі вынікае з сувязі чалавека з Богам, яго асабістай сустрэчы з Хрыстом, Які кліча. Не чалавек выбірае яе сабе. Калі ў сям'і дзіця праяўляе заахвочанасць прыняць паслугу ў Касцёле (у кляштары ці святарскім служэнні), – не перашкаджайце! – заклікаў біскуп Алег прысутных.

– Як аднойчы ў фарысеяў узнікла пытанне, што рабіць з апосталамі, і яны не ведалі, як паступаць, то адзін фарысей адказаў: "Пакіньце!" Калі гэта справа людская, яна распадзецца сама сабой, але калі справа Божая, то каб не аказалася, што змагаемся з Самім Богам. Нам часта падаецца, што нашы планы і перакананні самыя лепшыя. Пан Бог, магчыма, і дае нам нейкае жаданне, намеры, але памятайма, што Ён мае найлепшы план для чалавека.

"Ну бо гэта цяжка", – кажуць людзі... А каму сёння лёгка? Ніводзін шлях пакліканне чалавека не будзе пазбаўлены выпрабаванняў. Але важна ведаць, што, пераажываючы гэтыя цяжкасці, я знаходжуся "ў сваёй талерцы". Пан Бог мяне паклікаў і на гэта месца паставіў. Мы павінны дарасці да таго ўзроўню нашай веры, каб гэту рэч разумець. На жаль, так адбываецца незаўсёды. Больш за тое, мы павінны радавацца, што Бог паглядзеў з любоўю, выбраў з тысячаў і паклікаў да гэтай выключнай службы".

На заканчэнне прамовы біскуп Алег распавёў, што некалі прачытаў пра такія чатыры тыпы людской дзейнасці:

— халтура – чалавек робіць без жадання, без любові і не ўмеючы;

— хобі – падабаецца, робіць з любоўю, але калі мае вольны час і ахвоту;

— рамяство – робіць дакладна, прафесійна, але без вялікіх пачуццяў, бо гэта праца ці "бо трэба";

— мастацтва – робіць з душой, любоўю і прафесійна.

"Святарскае служэнне не можа быць халтурай, хобі і нават рамяством", – падкрэсліў біскуп і пажадаў кл. Яўгену, каб паслуга дыякана, а пазней і святара, была Божым мастацтвам.

Наступнай часткай Літургіі стаў абрад пасвячэння: абяцанні, якія кандыдат складае на рукі біскупа, супольная малітва Літаніяй да ўсіх Святых, падчас каторай семінарыст ляжыць крыжам перад алтаром, ускладанне рук і малітва, апрананне стулы і дальматыкі, а затым дыякан атрымлівае Евангелле з рук біскупа і знак супакою.

На заканчэнне ўрачыстасці асаблівыя словы ўдзячнасці ад дыякана і біскупа былі выказаны бацькам і хросным за хрысціянскае выхаванне.



## Новы экзарцыст прызначаны ў Віцебскай дыяцэзіі

Згодна з дэкрэтам біскупа Алега Буткевіча ад 26 лістапада 2019 года, Віцебская дыяцэзія мае яшчэ аднаго экзарцыста. Ім прызначаны кс. доктар Мікалай Ціхановіч, дэкан Глыбоцкі, пробашч парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім.

З мая 2019 года і да гэтага моманту ў Віцебскай дыяцэзіі быў адзін святар-экзарцыст – а. Аляксандр Жарнасек MIC (Орша).

*Марына Сінкевіч*



# Папа Францішак скіраваў пасланне да Патрыярха Канстанцінопальскага

**“Запэўніваю ў непахісным намеры Каталіцкага Касцёла і сваім асабістым працягваць наша імкненне працаваць над аднаўленнем поўнай камуніі паміж хрысціянамі Усходу і Захаду”, – адзначыў Францішак.**



Святы Айцец напісаў ліст да Патрыярха Барталамея I з нагоды свята св. Андрэя – апекуна Канстанцінопальскага Патрыярхату, якое адзначаецца 30 лістапада. Пасланне перадаў кардынал Курт Кох, старшыня Папскай рады спрыяння хрысціянскаму адзінству і кіраўнік афіцыйнай дэлегацыі Святога Пасаду, якая прыбыла ў Фанар. Традыцыя абмену дэлегацыямі з нагоды ўрачыстасцяў апосталаў Пятра і Паўла і апостала Андрэя, паводле Папы, з’яўляецца знакам імкнення да поўнага адзінства.

Пантыфік узгадаў пра 40-годдзе Сумеснай міжнароднай камісіі па тэалагічным дыялогу паміж Каталіцкім Касцёлам і Праваслаўнай Царквой, стварэнне якой ініцыявалі Патрыярх Дзімітрыёс I і Папа Ян Павел II падчас візіту апошняга ў Фанар з нагоды свята св. Андрэя. За гэтыя гады было зроблена шмат значных крокаў наперад, – падкрэсліў ён.

“Пошукі ўзнаўлення поўнай еднасці паміж католікамі і праваслаўнымі, безумоўна, не абмяжоўваюцца выключна тэалагічным дыялогам, але ажыццяўляюцца таксама і праз іншыя каналы касцельнага жыцця. Нашы адносіны падтрымліваюцца перш за ўсё праз сапраўдныя жэсты ўзаемнай павагі і пашаны. (...) Каталіцкі Касцёл і Праваслаўная Царква ўжо адправіліся ў гэты шматспадзеўны шлях, пра што сведчаць нашы сумесныя ініцыятывы. Я таксама веру, што ў мясцовым кантэксце ўсе мы будзем усё больш умацоўваць штодзённы дыялог любові і жыцця ў сумесных духоўных, душпастырскіх, культурных і дабрачынных праектах”, – напісаў Францішак.

“Аб’яднаўшыся ў малітве праз заступніцтва апостала Андрэя, яшчэ раз дасылаю мае самыя цёплыя пажаданні Вам і ўсім прысутным, абменьваючыся з Вамі святымі абдымкамі ў Хрысце, Пану нашым”, – завяршыў сваё традыцыйнае пасланне да Патрыярха Канстанцінопальскага Пантыфік.

*Беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*

# Мемориальная доска Слуге Божьему Константину Будкевичу открыта в Санкт-Петербурге

**9 декабря в Торжество Непорочного Зачатия Пресвятой Девы Марии Митрополит Минско-Могилёвский архиепископ Тадеуш Кондрусевич по приглашению настоятеля открыл и освятил в приходе св. Станислава в Санкт-Петербурге Мемориальную доску Слуге Божьему Константину Ромуальду Будкевичу, мученику богоборческого времени, настоятелю прихода Святой Екатерины в Петрограде.**




Прошло почти сто лет с того времени, когда прелат Будкевич во время большевистских гонений по приговору московского суда “к высшей мере наказания – смертной казни” отдал свою жизнь за Веру Христову.

Процесс беатификации Слуги Божьего прелата Константина Будкевича вместе с другими священниками Могилёвской архиепархии во главе с епископом Антонием Малецким начался в 2003 году в Санкт-Петербурге по инициативе архиепископа Тадеуша Кондрусевича, в то время Митрополита Архиепархии Матери Божией в Москве.

### Слуга Божий Константин Будкевич (1867 – 1923)

Константин Ромуальд Будкевич родился 19 июня в 1867 г. под Краславой (ныне Латвия). Окончил Духовную семинарию и Духовную академию в Санкт-Петербурге. В 1893 г. рукоположен во священники. Кандидат богословия. Служил в Пскове, в Витебске, затем – в приходе св. Екатерины в Петербурге, с 1905 г. – его настоятель. С 1908 – декан Петербургского деканата. В 1918 г. получил наградной титул прелата. Был выдающимся организатором и общественным деятелем, особенно в области развития приходского образования в приходах Петербурга и области, занимался благотворительностью, организовывал духовенство для защиты прав верующих. В 1918 г. активно выступал за освобождение арестованного советскими властями митрополита Эдуарда Роппа. С 1922 г. – профессор подпольной Духовной семинарии. Митрополитом Э. Роппом и архиепископом И. Цепляком неоднократно делегировался для переговоров с властями по поводу прав Католической Церкви. Отказался от возможности тайно покинуть СССР, чтобы не увеличивать риски расправы над другими священниками. 13 марта 1923 г. арестован вместе с архиепископом Цепляком и другими священниками. 26 марта 1923 года в Москве приговорен к смерти. Расстрелян в Пасхальную ночь с 31 марта на 1 апреля 1923 г.

## Молитва о прославлении Слуги Божьего о. Константина Будкевича

**Всемогущий Боже, Сын Твой страдал и умер на Кресте ради спасения людей. Подражая Ему, Слуга Твой отец Константин Будкевич любил Тебя всем сердцем, верно служил Тебе во время гонений и отдал жизнь за Церковь. Прославь его в сонме Твоих блаженных, чтобы пример его верности и любви сиял перед всем миром. Молю Тебя, по его заступничеству услышь мою просьбу ... Через Христа, Господа нашего. Аминь.**

*(+ Архиепископ Тадеуш Кондрусевич, СПб. 5.04.2004. Молитву можно использовать частным образом, а также публично вне литургии)*

*Cathmos.ru*






# Дыяцэзіяльная сустрэча руху “Маці ў малітве” прайшла ў Глыбокім

**14 снежня 2019 года ў касцёле Святой Тройцы ў Глыбокім прайшла дыяцэзіяльная сустрэча руху “Маці ў малітве”.**

**Галіна Арлова**, *тэкст;* **Зміцер Лупач,** *фота*

Разам з матулямі радасць сустрэчы раздзялілі біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, кс. Адам Квяткоўскі SDS, адказны за рух у дыяцэзіі, пробашч з Глыбокага кс. Мікалай Ціхановіч і Людміла Губіна, каардынатар руху ў Беларусі.

На сустрэчу прыехалі жанчыны з Браслава, Верхнядзвінска, Віцебска, Відзаў, Далёкіх, Камаяў, Навасёлак, Паставаў, Пагошчы, Шаркаўшчыны, але яднала іх усіх адзіная любоў да сваіх дзяцей. Калі ўсім сэрцам аддаеш клопаты пра сваіх дзяцей Пану Богу, усведамляеш, што мае дзеці – гэта не мая ўласнасць, у якіх хочацца споўніць свае жаданні, але гэта Божыя дзеці, якіх падтрымліваем сваёй малітвай і любоўю.

На пачатку перад Найсвяцейшым Сакрамантам усе матулі разам удзельнічалі ў малітве за ўсіх дзяцей, святароў і духавенства. Затым адбылася св. Імша, якую цэлебраваў біскуп Алег Буткевіч.

Пасля малітоўнай часткі сустрэчы ў парафіяльным доме гасцей чакаў гарачы абед, гарбата і салодкі пачастунак. Там кожная парафіяльная група магла падзяліцца сваім досведам жыцця і малітвы.

Пасля абеда кс. Адам Квяткоўскі правёў канферэнцыю, падчас якой паказаў, з якой любоўю мы павінны прыняць у сваім жыцці Слова Божае. Зранку, напрацягу ўсяго дня, разважаць у сэрцы над Словамі, якія Пан Бог кажа нам менавіта сёння. А вечарам, перад адпачынкам, аддаць падзяку Богу за пражыты дзень. Даступна і цікава ў інсцэніраваным выглядзе было пададзена Слова Божае на нядзелю.

Маці, якія моляцца — гэта сапраўды адна моцная сям'я, дзе ты не адзін, дзе боль дзеліцца на ўсіх і змяншаецца, а радасць – памнажаецца.



# В Гродненском областном роддоме отказались убивать нерожденных детей

**В Гродненском областном клиническом перинатальном центре больше не проводят аборты. Об этом сегодня перед началом круглого стола “За рождение” журналистам сообщила заведующая поликлиникой УЗ “Гродненский областной клинический перинатальный центр” Светлана Разина, передает корреспондент БЕЛТА.**

С 2 декабря в перинатальном центре реализуется проект “Клиника без абортов”. В учреждении не проводят прерывание беременности до 12 недель по желанию женщины ни инструментальным, ни медикаментозным способом.

“Проблема абортов актуальна для всего мира, имеет она и экономическое, и социальное, и этическое значение. Влияет она и на демографию. В Гродненской области, к сожалению, как и во всей стране, рождаемость снижается. В 2018 году в регионе родилось на 9% меньше детей, чем годом ранее”, – отметила Светлана Разина. Она подчеркнула, что проект “Клиника без абортов” в том числе направлен и на повышение рождаемости.

“В регионе в этом направлении и раньше было сделано немало. В Гродненской области отмечается ежегодное снижение количества абортов. Только за последние три года их стало меньше на 13%”, – рассказала Светлана Разина. Стабильно снижается число абортов и среди впервые забеременевших женщин.

Со всеми беременными женщинами работают психологи и психотерапевты. Благодаря предабортным психологическим консультациям в 2018 году 21% женщин сохранили беременность. По итогам 9 месяцев текущего года этот показатель составил почти 26%.

Во время круглого стола отмечалось, что каждая прерванная беременность – это проблема не просто женщины и семьи, но и общества в целом. Вопросы формирования позитивного родительства, воспитания традиционных семейных ценностей, ответственного отношения к беременности стали главными темами для обсуждения.

В работе круглого стола “За рождение” приняли участие не только медики-практики и специалисты из этой сферы, но и представители общественных организаций, священнослужители.

На базе перинатального центра для оказания комплексной специализированной помощи женщинам и супружеским парам создано областное консультативно-диагностическое отделение “Брак и семья”. Здесь внимание уделяется планированию беременности, дальнейшему ее сопровождению для рождения здорового ребенка.

*belta.by*



# Былы пастар пяцідзясятнікаў стане каталіцкім святаром, хоць мае жонку і дзяцей



19 снежня святарскае пасвячэнне ў дыяцэзіі ў Стубенвіле, штат Агаё, атрымае былы пастар пяцідзясятнікаў Дрэйк Маккалістэр.

Ён жанаты, бацька пяці дзяцей. 29 чэрвеня 2018 года ён стаў сталым дыяканам. На пасвячэнне дала згоду Апостальская Сталіца.

Маккалістэр быў пастарам у супольнасці пяцідзясятнікаў на працягу трынаццаці гадоў, але адмовіўся ад служэння, калі адчуў, што павінен стаць католікам. Catholic News Agency паведамляе, што першым імпульсам для разважання над сваім шляхам веры была праграма Каталіцкага радыё. Пасля пяці гадоў вывучэння пытанняў і абмеркаванняў з жонкай сям'я вырашыла далучыцца да Адзінага Касцёла разам са сваімі дзецьмі. Гэта быў 2004 год. Аднак толькі ў 2010 годзе Маккалістэр пачаў думаць пра магчымасць пасвячэння – спачатку дыякана, а потым і святара.

У 2016 годзе Маккалістэр апісаў сваё навяртанне, прызнаўшыся, што ўпершыню наведаў каталіцкую Імшу, знаходзячыся на адпачынку ў штаце Юта, за 800 міль ад дома. Спачатку ён баяўся, што вернікі Каталіцкага Касцёла будуць "халоднымі, незацікаўленымі і няветлівымі", але "напрыканцы літургіі Бог даў мне як мага больш дар маёй першай святой Імшы". Адзін вернік запрасіў яго на каву. Гэты досвед змяніў погляды Маккалістэра на Касцёл, і з тых часоў ён часта сустракаў людзей руплівых і актыўных, з якімі ён мог бы далучыцца да Касцёла.

Выключэнні з прынцыпу цэлібату ў Касцёле лацінскага абраду для мужчын, якія імкнуцца атрымаць святарскае пасвячэнне, рэгулююцца Ватыканам у кожным з такіх выпадкаў асобна.

*Паводле credo.pro*
*Пераклад*
***Марыны Сінкевіч***

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: Ларыса Фёдарава** *(Глыбокае)*, **Вераніка Курыловіч** *(Мосар)*, **Аліна Бука** *(Мосар)*, **Данута Алейнік** *(Мосар)*, **Марыя Мурзіч** *(Мосар)*, **Алена Лінская** *(Мосар)*, **Ірэна Сіманенкава** *(Мосар)*, **Станіслава Жук** *(Мосар)*, **Яніна Стаўронская** *(Луцк-Масарскі)*, **Яцына Часлава** *(Шаркаўшчына)*, **Соф'я Ласоўская** *(Радзюкі)*, **Рэгіна Бука** *(Радзюкі)*, **Парфяновіч Ю.В.** *(Браслаў)*, **Сурвіла В.** *(Шэметава)*, **Аліна Гайлеўская** *(Туркава)*, **Вашкель Р.В.** *(Дворнае Сяло)*, **Генадзь Маркоўскі** *(Маладзечна)*, **Парфяновіч Т.В.** *(Браслаў)*, **Чэслаў Салодкі** *(Дзеркаўшчына)*, **Алімпія Цішко** *(Старыя Габы)*, **Алькснін З.В.** *(Браслаў)*, **Леангіна Астаноўка** *(Атокі)*, **Лубінская Я.Ф.** *(Шэметава)*, **Валянціна Лучына** *(Слабодка)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Ядвіга Піліпенка** *(Параф'янава)*, **Розелья Я.І.** *(Ашмяны)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Яўгенія Паўлава** *(Віцебск)*, **Таццяна Рагожкіна** *(Новы Пагост)*, **Ванда Кавалеўская** *(Лявонпаль)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Кірылава В.І.** *(Ёды)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Часлава Гулевіч** *(Маладзечна)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Тэрэса Варановіч** *(Докшыцы)*, **Іван Сіманёнак** *(Паставы)*, **Кашчыц Л.В.** *(Ашмяны)*, **Тэрэса Варанецкая** *(Мёры)*, **Яніна Парфяновіч** *(Пялікі)*, **парафіяне з Чашнікаў**, **Галіна Данілава** *(Шуміліна)*, **Дзіяна Лапушынская** *(Коўзаны)*, **Зоя Воранава** *(Шуміліна)*, **Алена Ціннікава** *(Мінск)*, **Каспярэвіч Г.** *(Мураваная Ашмянка)*, **Даната Сярогіна** *(Глыбокае)*, **Елізавета Барткевіч** *(Слабодка)*, **Даната Далецкая** *(Слабодка)*, **Ніна Далецкая** *(Слабодка)*, **Стэфанія Глод** *(Слабодка)*, **Марыя Угорэнка** *(Слабодка)*, **Яніна Вільчынская** *(Слабодка)*, **Люцыя Арсюкова** *(Слабодка)*, **Ядвіга Барткевіч** *(Гаўрылаўцы)*, **Рэгіна Савіцкая** *(Гаўрылаўцы)*, **Юзэфа Мількевіч** *(Веркаўшчына)*, **Вінцэнты Навіцкі** *(Браслаў)*, **Алена Балай** *(Мосар)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Ірэна Ядзевіч** *(Паставы)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Лоўкіс Л.В.** *(Навасёлкі-2)*, **Феакцістава Л.М.** *(Камарова)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Аляксандра Гушча** *(Оцкавічы)*, **Алена Сакалоўская** *(Павяцце)*, **Камелія Емельянава** *(Дунілавічы)*, **Феліцыя Небышынец** *(Дубовы Лог)*, **Ада Шумская** *(Наваполацк)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Ракуцкі В.К.** *(Браслаў)*, **Сапель Я.М.** *(Браслаў)*, **Цігіна Г.М.** *(Камарова)*, **Казімір і Людміла Буткевіч** *(Крапіўнікі)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Рагоўскі В.В.** *(Муражы)*, **Караліна Лаўрыновіч** *(Мосар)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Ганна Швед (Зорка)**, **Фалевіч С.Л.** *(Камарова)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Вацлава Савіцкая** *(Глыбокае)*, **Галіна Валькевіч** *(Глыбокае)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***
***"Каталіцкага Весніка"***



## Пяць думак святой Тэрэзы, якія дапамогуць лепш падрыхтавацца да свята Божага Нараджэння

**Пакланенне "Малой Кветкі" Езусу Хрысту ідэальна гарманюе з падрыхтоўкай да Божага Нараджэння.**

Прыгожае і простае жыццё святой Тэрэзы з Лізье, якую называюць "Маленькай кветкай", добра вядомае. Духоўная глыбіня "Гісторыі адной душы" – аўтабіяграфіі французскай кармеліткі – робіць глыбокае ўражанне на чытачоў.

Цэнтральнае месца ў духоўнасці св. Тэрэзы займае гонар, які яна аддавала Дзіцятку Езусу. Гэтая набожнасць перапаўняла ўсё яе жыццё. Нездарма манаскае імя святой – сястра Тэрэза ад Дзіцятка Езуса. Ніжэй мы прыводзім некаторыя цытаты з твораў св. Тэрэзы, якія дапамогуць нам духоўна падрыхтавацца да свята Нараджэння Хрыстовага – прызнаць нашу дробязь і патрэбу пастаяннай міласэрнасці Езуса ў нашым жыцці.

### 1. Кветкі святой Тэрэзы

"Я заўсёды выдатна памятаю сваю Першую Камунію… Добрая кніжачка, выдатна напісаная, падрыхтавала мяне да яе, мабыць, крок за крокам. І хоць я ўжо даўно думала пра сваю Першую Камунію, мне давялося падагрэць свой запал, а сэрца напоўніць нядаўна сарванымі кветкамі. Так я штодня рабіла шмат ахвяр і актаў міласэрнасці, якія станавіліся кветкамі: некаторыя былі фіялкамі і ружамі, іншыя – васількамі, маргарыткамі і незабудкамі. Я хацела заслаць сваё сэрца для Езуса ўсімі кветкамі на зямлі".

### 2. Прынесці радасць маленькаму Езусу

"Некаторы час таму я аддала сябе Немаўляці Езусу за цацку. Я сказала Яму, каб Ён ставіўся да мяне не як да каштоўнай рэчы, на якую дзеці звычайна толькі глядзяць і не адважваюцца дакрануцца, а як да нічога не вартага мяча, які Ён можа кінуць, ударыць, пракалоць, пакінуць у куце або прыціснуць да сэрца, калі Яго гэта пацешыць. Словам, я хацела няньчыць маленькага Езуса, прыносіць Яму радасць, хацела быць Яго дзіцячым капрызам".

### 3. Ахвяраваць Богу малыя рэчы

"Я – вельмі маленькая душа, якая добраму Богу можа ахвяраваць вельмі маленькія рэчы. І то здараецца, што я прапускаю гэтыя малыя адрачэнні, якія прыносяць столькі супакою. Аднак я не знеахвочваюся, пагаджаючыся на меншы супакой, а стараюся наступны раз быць больш уважлівай".

### 4. З даверам бягу да Езуса

"Аднак перш за ўсё я наследую Магдалену, яе дзіўную ці, хутчэй, поўную любові адвагу, якая заваявала Езуса, а мяне захоплівае. Я бягу да Езуса з вялікім даверам і любоўю, хоць і не свабодная ад смяротнага граху. Адчуваю, што калі б нават мела на сумленні ўсе магчымыя грахі, то і тады са скрухай у сэрцы кінулася б у абдымкі Езуса, бо ведаю, які дарагі Яму блудны сын, што вяртаецца да Яго".

### 5. Станавіцца кожны раз меншай

"Ліфт, які паднясе мяне да неба, – гэта Твае рукі, Езу! А для гэтага мне зусім не трэба расці. Наадварот, трэба застацца маленькай і станавіцца ўсё меншай".

*Паводле матэрыялаў Credo*

# Пастар хуліганаў ксёндз

**У беларускім асяроддзі, напэўна, мала хто чуў пра кс. Гі Жыльбера. У свой час асоба гэтага чалавека ў каталіцкіх колах успрымалася вельмі неадназначна. Ён мог закурыць, часам з яго вуснаў злятала матнае слова, ну а вопратка і блізка не нагадвала пра тое, што ён святар. Канечне, можна не згаджацца з яго "методыкай" евангелізацыі маладых бандытаў, але нельга не прызнаць: гэты чалавек ведае, што значыць любіць Бога і людзей...**

**а. Аляксандр Жарнасек MIC**, *viartannie.org*

Магчыма, добра гаварыць, але ў сто разоў лепш дзейнічаць. А мы, хрысціяне, так шмат размаўляем і так мала робім!.. Калі б усе хрысціяне, што прыходзяць на Імшу ў нядзелю, пасля яе пайшлі да вязня альбо да тых, хто цяпер у патрэбе, то ў нашых краінах не было б больш нешчаслівых. Калі людзі бачаць нас у касцёлах, але не бачаць у месцах людской пакуты, тады наша вера нічога не вартая ў іх вачах.

Постаць святара Гі Жыльбера вельмі незвычайная і легендарная. Ён вядомы сваёй дабрачыннай працай у Францыі. Яго служба праходзіць сярод вулічных трушчобаў і маладых злачынцаў. Не пакідаючы сваёй харызматычнай службы, ён рызыкуе жыццём. Ён сведчыць не сваім адзеннем і словам, а ўласным жыццём, сведчыць пра надзею і любоў, якая нават для найгоршага злачынцы знаходзіцца ў Езусе Хрысце.

"Да сучасных людзей трэба ісці з голымі рукамі, з крыжом Хрыста ў сэрцы, а не ў руках", – кажа кс. Гі Жыльбер.

Гі Жыльбер нарадзіўся ў Rochefort-sur-Mer (Францыя) у 1935 г. у шматдзетнай працоўнай сям'і (быў адным з 15 дзяцей). У трынаццацігадовым узросце ён адчуў сваё пакліканне і пайшоў у семінарыю. Будучы клерыкам, ён адбыў вайсковую службу падчас вайны ў Алжыры. Там прыняў святарскае пасвячэнне і распачаў сваю працу з вулічнай моладдзю. Працягваў гэтую працу і тады, калі вярнуўся ў Парыж.

Напачатку ён працаваў, апранутым у духоўны строй, але гэта вылучала яго. "Калі я апрануў падораную мне скураную куртку, мяне адразу ж арыштавала паліцыя, – успамінае кс. Гі Жыльбер. – Тады я зразумеў, што ў адзенні святара я атрымліваю зашмат пашаны".

Нам, безумоўна, будзе цікава даведацца пра стаўленне гэтага святара да многіх праблемаў нашага часу, бо ён ведае іх не з кніг, але з самога жыцця. Паспрабуем прыслухацца да ягонага слова...





### Што пагражае Касцёлу

Мы часта кажам, што наш Бог з'яўляецца Богам любові, таму мы жывём ёю. Я баюся касцёлаў, перапоўненых хрысціянамі, баюся Касцёла залішне магутнага, залішне багатага. Калісьці я быў у Варшаўскай семінарыі і размаўляў з клерыкамі ў прысутнасці іх выкладчыкаў. Клерыкі пыталіся ў мяне, што з'яўляецца найвялікшай пагрозаю для Касцёла? Адказваў ім: "Вашае багацце – багацце біскупаў, святароў, манахаў і манахіняў. Можна шмат казаць пра ўбогіх, але калі мы, тыя, што прадстаўляюць Бога, не будзем жыць як убогія, тады будзе толькі бессэнсоўная "гаварыльня", а не евангелізацыя. Я чакаю таго часу, калі Касцёл перастане казаць, а стане дзейнічаць, пачынаючы ад святароў. Езус хадзіў басанож. Ён быў Сынам Бога, але не насіў хабіту, пазалочаных сутанаў. Знакам Хрыста было абмыванне ног апосталам. Ніхто не распазнаваў Яго па адзенні. Я баюся касцёла, які шмат сябе афішуе. Не трэба казаць пра тое, што мы належым да Хрыста, трэба паказваць гэта сваім жыццём. Я непасрэдна ніколі не евангелізую. Памятаю пра тое, што Езус на працягу трыццаці гадоў маўчаў. Паглядзіце, які наш Касцёл гаваркі. А насамрэч толькі нашыя міласэрнасць і ўбоства могуць сведчыць пра Хрыста. Святы Павел казаў:"Я моцны толькі тады, калі я слабы". Ніколі не забывайце пра гэта.

### Быць насамрэч з убогімі

Якім чынам служыць для ўбогіх? Быць разам з імі, слухаць і чуць іх. Так здараецца, што мы часам спрабуем рабіць розныя рэчы за іх. Ім жа гэта не дапамагае, а наадварот, шкодзіць. Ім важна самім пачаць штосьці рабіць. Я пераўжыў гэта. Праз трынаццаць гадоў пасля семінарыі я сустрэў хлопца, які жыў у страшэнных умовах. Я запрасіў яго да сябе ў плябанію. Ён жа прывёў і сваіх сяброў. Яму захацелася прывесці сваіх знаёмых, бо яны дзялілі з ім ягоную бядоту. Яны яго разумелі, а ён разумеў іх. Я пераканаўны ў тым, што той, хто хоча займацца ўбогімі, павінен таксама і жыць, як яны. Прысутнасць і слуханне. У маім жыцці выхавальніка і святара за трыццаць восем гадоў я не зрабіў нічога большага за слуханне.

### Карыстацца іх кодам

Я жыў сярод бандаў у Парыжы, на вуліцы. Біўся разам з імі. Я быў вымушаны рабіць гэта. Калісьці мяне публічна абразіла адна банда. Я павінен быў адрэагаваць і ўдарыў у чыюсьці скіўцу сваёй евангелізавальнай правай. Вось так яно і ёсць: спачатку б'ю, а потым блаславаўляю. Не, гэта не тактыка, проста спроба карыстацца іхнім жа кодам. Першая бойка на вуліцы, у якой я ўдзельнічаў, была нялёгкай. Я выйшаў з яе ўвесь у крыві, але ж біўся да канца. Памятаю, як пазней завадатар іхняй банды падышоў і сказаў мне, што цяпер я – адзін з іх. Без гэтай бойкі ў мяне нічога б не атрымалася. Словы з Евангелля: "Таму, хто ўдарыў цябе па шчацэ, падстаў і другую; і таму, хто адбірае ў цябе плашч, не забараняй узяць і кашулю"(Лк 6, 29.), не страцілі свайго сэнсу. Калі я біўся, я біўся з любоўю. Гэта не з'яўляецца добрым выхаваўчым метадам, але часам гэта дзейнічае. Калі мы насамрэч прагнем дапамагаць убогім, патрэбна адкласці ўсё і быць, як яны. Калі не будзе гэтага, то ўсё будзе вельмі павярхоўна і бессэнсоўна.

### Кампетэнцыя

Трэба мець добрую волю. Валанцёры – гэта вельмі важна. Але існуе патрэба (гэта я магу сказаць, абапіраючыся на свой досвед) у кампетэнцыі. Жыццё сярод прастытутак ці наркаманаў – гэта штосьці іншае, чым жыццё сярод інвалідаў. Трэба глыбока пазнаць людзей, сярод якіх ты жывеш. Ведаю святароў, якія займаюцца і калекамі, і людзьмі з трушчобаў, і моладдзю. Сумняваюся, што такі падыход прыносіць багаты плён. Я вельмі люблю займацца з інвалідамі, але ў мяне не атрымліваецца працаваць з імі. У той жа час у працы з маладымі злачынцамі я не маю праблемаў. Хвала Пану за такі для мяне дар, бо я ў сваім узросце магу іх яшчэ вытрымаць.

### Добрае здароўе, дыстанцыя і неабходнасць супольнасці

Для таго, каб жыць з людзьмі з трушчобаў, патрэбна мець вельмі добрае здароўе, быць добра развітым фізічна і мець псіхічную раўнавагу. Яны насамрэч могуць вывесці з сябе: і хлопцы, і дзяўчаты. Найчасцей яны жывуць амаральна, таму, жывучы сярод іх, можна пераживаць страшэнныя спакусы. Таму пастаянна трэба захоўваць дыстанцыю і быць у эмацыянальнай раўнавазе. Калі б я на працягу кожных дзесяці дзён не праводзіў два дні ў кляштары, то я, магчыма, даўно ўжо не быў бы святаром. Не атрымалася б гэта перажыць, толькі дыстанцыя мяне ратуе. Менавіта таму ёсць вялікая неабходнасць у супольнасці.

### Не казаць ім пра Бога

Я не кажу людзям з нізоў пра Бога. Казанне ім пра Яго можа быць адным з відаў гвалту. Такі чалавек можа тады сказаць: "Ён размаўляе са мною толькі дзеля таго, каб навярнуць мяне". Я лічу, што да іх можна ісці толькі з голымі рукамі. Калі ж ты носіш Езуса ў самім сабе, яны гэта адчуюць. Афішаваць гэта не трэба, бо калі яны ніколі ў жыцці не адчувалі любові, ім будзе вельмі цяжка прыняць любоў Бога. Яны павінны пачуць нашу поўную незацікаўленасць. Калісьці на сваім святарскім шляху я сустрэў 16-цігадовага хлопца, якому я сказаў, што Бог, Які яго любіць, стварыў сусвет. На што ён мне адказаў : "Гэта азначае, што Бог любові стварыў і маіх бацькоў, якія трымалі мяне ў шафе на працягу трох гадоў?



# Гі Жыльбер



⇨ Я быў вымушаны замест прыбіральні хадзіць пад сябе, часам я атрымліваў кавалачак размяклага рысу. Калі я выйшаў, то на працягу ўсяго жыцця ў мяне было заблакаванае калена. Можаш падавіцца сваім Богам любові!" Пасля гэтага я перастаў ім казаць пра Бога любові, бо не хацеў, каб болей абражалі Любоў усяго майго жыцця. Мне паказалі на тое, каб, евангелізуючы іх, я маўчаў пра Бога.

### Выйсці да ўбогіх

На працягу 10-15 гадоў я займаўся пошукамі маладых. Я шукаў іх на вуліцы. Калі а другой гадзіне ўначы я знаходжу трынаццацігадовых юнакоў, я ведаю, што ў іх нікто не спіць дома. Думаю, што ў Варшаве, Кракаве і іншых гарадах тое ж самае. Альбо мы будзем сядзець за зачыненымі дзвярыма ў сваіх канторах, альбо мы пойдзем туды, у тыя месцы, дзе яны жывуць. Гэта велізарная розніца. Зусім іншы падыход. Хочацца яшчэ раз нагадаць: не пачынайце з праектаў пра ўбогіх – так робяць багатыя і гэта не прыносіць багатага плёну. Проста ідзіце да іх, жывіце і ўзрастайце разам з імі.

### Аўчарня

Так, на працягу 15 гадоў я шукаў маладых разам з іншымі святарамі на вуліцах. Аднойчы адзін з іх сказаў мне, што, калі я забіраю іх на некалькі дзён да сябе, ім потым даводзіцца зноў вяртацца да наркотыкаў і да знямогі.... Мы знайшлі нейкія руіны каля Парыжа, захацелі адбудаваць іх уласнымі рукамі. За дзесяць гадоў 250 маладых людзей адбудавалі гэты дом наноў. Як яны там жывуць? Спачатку у нас былі тры курыцы і трус. Тады я і заўважыў, што моладзь, якая ненавідзіць людзей, сваіх бацькоў-катаў, тых, што іх выкарыстоўвалі, з захапленнем цікавіцца жывёламі. На працягу трыццаці гадоў я купіў 120 жывёл. Цяпер у нас ёсць буйвалы, вярблюды, куры, каровы, коні, антылопы і розныя іншыя цуды.

### Вяртаю тое, што я атрымаў

Ад немаўляці да старога, якому сто гадоў, увесь час, які мы праводзім на зямлі, – гэта час любові. Калі мы перастанем любіць, мы памром. Вы ведаеце, што такое любоў. Я трэці з пятнаццаці дзяцей у сям'і, я меў шмат любові ад маіх бацькі і маці. Я насамрэч ведаю, што азначае любоў. Ад сваіх 38 гадоў жыцця я прысвяціў сябе службе любові, каб аддаць яе тым, хто не атрымаў гэтай любові. Насамрэч я толькі вяртаю тое, што сам атрымаў. Жадаю вам, каб вы таксама сталі жаўнерамі любові. У імя той любові, якую вы атрымалі ад людзей, у імя любові Бога, Які з'яўляецца любоўю.

Найлепшы від евангелізацыі – гэта не казанне пра Бога, але жыццё Богам і быццё Яго знакам.

Няхай падмуркам нашага паклікання, незалежна ад таго, дзе мы працуем, будзе добраахвотны і бескарыслівы дар любові!

*(23-25 красавіка 2004 г па запрашэнні "Карытас" у Варшаве кс. Гай правёў сустрэчу з журналістамі. Напісана з выкарыстаннем артыкулаў Анджэя Чарнецкага. Апрацавала Яна Пташынская).*



# Святы Мікалай

**Божае Нараджэнне – час цудаў і падарункаў! Асабліва ў гэтыя дні мы ўспамінаем святога, які так любіў дарыць падарункі і быў сапраўдным Цудатворцам! У новым тэсце "Каталіцкага Весніка" прапануем вам праверыць, ці добра вы знаёмыя са Святым Мікалаем.**

1 Дзе нарадзіўся Святы Мікалай?



**А)** горад Бары
**Б)** Міры Лікійскія
**В)** Патара

2 Месяц, у якім асаблівым чынам мы ўспамінаем Святога Мікалая?



**А)** снежань
**Б)** люты
**В)** чэрвень

3 Калі жыў Святы Мікалай?



**А)** V ст.
**Б)** у канцы III – першай палове IV ст.
**В)** VII ст.

4 На тэрыторыі якой сучаснай краіны знаходзіцца былы горад Міры?



**А)** Італія
**Б)** Грэцыя
**В)** Турцыя

5 У якім сане служыў Святы Мікалай?
**А)** Прэзбітар
**Б)** Біскуп
**В)** Арцыбіскуп



6 Горад, у якім зараз знаходзіцца цела Св. Мікалая?



**А)** Рым
**Б)** Бары
**В)** Салонікі

7 Якім чынам цела Святога Мікалая там апынулася?



**А)** было перавезена крыжакамі
**Б)** цудоўным чынам прыплыло само па моры
**В)** было скрадзена італьянскімі купцамі

8 Існуе паданне, што Св. Мікалай удзельнічаў у Нікейскім Саборы. Сярод удзельнікаў была асоба, якая не паважна выказалася пра Боскую прыроду Езуса, за што Св. Мікалай даў гэтай асобе аплявуху. Каго на саборы ўдарыў Святы Мікалай?



**А)** Яўсевія
**Б)** Арыя
**В)** Спірыдона

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

**Правільныя адказы на старонцы 12**

# "Я змог прыслухацца да свайго сэрца і адчуў, што Бог са мной". Як моладзь весялілася на "Андрэйках" у Глыбокім

**У апошні дзень восені, 30 лістапада, моладзь з Віцебскай дыяцэзіі сабралася разам, каб у малітве, спевах, праслаўленні і танцах падрыхтавацца да раданснага чакання прыйсця Збаўцы.**

**Ася Паплаўская**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

"Андрэйкі" ў "вішнёвай сталіцы" Беларусі, Глыбокім, ладзяцца ўжо пяты год запар. Сёлета тэма гучала так: "Welcome to the Касцёл". Падзяліцца радасцю ад еднасці з сям'ёй Касцёла прыехала больш за 250 чалавек.

Вясёлае мерапрыемства ў глыбоцкім Доме культуры арганізавала дыяцэзіяльнае душпастырства моладзі разам з парафіяй Святой Тройцы ў Глыбокім. У ярка-жоўты будынак непадалёк ад касцёла прыехалі вернікі з Пастаў, Лынтуп, Камаяў, Лучая, Варапаева, Докшыц, Шаркаўшчыны, Мёр, Ідолты, Полацка, Наваполацка, Расон, Віцебска, Оршы і, канечне, самога Глыбокага.

Пасля прывітальных словаў пробашча парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім кс. Мікалая Ціхановіча, душпастыра моладзі Віцебскай дыяцэзіі і арганізатара "Андрэек" кс. Алега Хмылко і сумеснай малітвы, распачалася забаўляльная праграма.

Аніматары ДДМ правялі пераклічку (самымі гучнымі аказаліся Паставы) і прапанавалі ўзгадаць тэму мінулагодніх "Андрэек". Яна гучала так: "Суперздольнасці хрысціяніна". Імі з'яўляюцца прыналежнасць да супольнасці, малітва, міласэрнасць і апостальства. Аніматары звярнулі асаблівую ўвагу на суперздольнасць "прыналежнасць да супольнасці" і прапанавалі прысутным падзяліцца сваім сведчаннем прыходу ў касцёл.

Пасля таго, як удзельнікі ўзгадалі, як яны аказаліся часткай касцёльнай сям'і, аніматары правялі конкурсы, перайначылі казку "Церамок" у "Каплічку" з удзелам мышкі-манашкі і скварца-айца, развучылі з прысутнымі новы танец.

Але "Андрэйкі" – сустрэча не толькі забаўляльная. Арганізатары далі моладзі магчымасць асэнсаваць сваё жыццё і прагненні, каб падрыхтавацца да часу "актыўнага чакання" Езуса. Нам паказалі відэа "Гісторыя Ісака", гісторыю перамянення і навяртання. Ролік паспавядае пра хлопца ў вялікім горадзе, які вырваўся ў "вялікі свет", працаваў у сферы моды, добра зарабляў і ні ў чым сабе не адмаўляў. Але нягледзячы на ўсю весялосць і актыўнасць жыцця, застаючыся сам-насам, адчуваў самоту і пустэчу ўнутры. Вярнуўшыся дамоў да веруючых бацькоў, ён раптам зразумеў, што "Ён, наш дасканалы Бацька, якога ў нікога з нас не было, заўжды з табой. Ён цябе ніколі не пакіне"...

Праслявіць Айца за любоў і міласэрнасць мы змаглі падчас канцэрта гурта "TALITHAKUM" з Віцебскай парафіі Св. Барбары. Пасля танцавальнага хіта "Хвалі Тваёй ласкі, Пане" саліст "TALITHAKUM" прапанаваў моладзі сціснуцца, пакласці руку на сэрца і падумаць, за што мы можам праславіць Бога, за што – падзякаваць, чаго папрасіць... Малітва праслаўлення стала добрай нагодай супольна, але ў той жа час паасобку, застацца сам-насам з Панам. Чыя прысутнасць адчувалася ў гэтыя хвіліны асабліва моцна...

> "Тут ты можаш смела сказаць: "Я — хрысціянін" і аддаць хвалу Пану з людзьмі свайго атачэння"







Пасля канцэрта "TALITHAKUM", які прайшоў на вельмі высокім узроўні (не хапала толькі кіраўніка калектыва айца Тамаша Мікі OP), усе адправіліся на дыскатэку.

Я была на "Андрэйках" у Глыбокім упершыню, пасля канцэрта і малітвы праслаўлення была вельмі ўражаная і вырашыла пагутарыць з моладдзю з розных парафій, даведацца іх уражанні ад мерапрыемства.

**Юлія, Паставы:** "Я на "Андрэйках" чацвёрты раз. Кожны раз арганізатары прыдумляюць нешта новае, вельмі цікавае, не стаяць на месцы. Я вельмі ўдзячна аніматарам, які ўсё гэта прадумваюць для нас. Больш за ўсе мяне сёння ўразіў канцэрт "TALITHAKUM" з малітвай праслаўлення. У гэтыя хвіліны я думала аб тым, што Бог заўжы з намі. Нягледзячы ні на тваё паводзіны, ні на тваё ўчынкі – Ён побач і ніколі не адмовіцца ад цябе. У наступным годзе абавязкова прыеду на "Андрэйкі"!".

**Андрэй, Варапаева:** "Трэці раз, здаецца, удзельнічаю ў "Андрэйках". Мне заўжды яны падабаліся, я не заўважаю нейкіх асаблівых змен, хіба што сёлета прыехала больш людзей, чым у мінулыя гады — вельмі здорава, што з'яўляюцца новыя людзі! Асабліва мне падабаецца, што тут шмат касцельных юнакоў і дзяўчат, з якімі класна весяліцца разам. Ты адчуваеш сябе ў "сваёй талерцы", дакладна ведаеш, што можаш смела вызнаваць сябе як хрысціяніна, аддаваць хвалу Пану, спяваць Яму разам з іншымі. Гэта неверагодна! Падчас малітвы праслаўлення я адчуваў спакой і мір у душы... Усё добра, усё – у руках Бога".

***Яна, Лынтупы (аніматар ДДМ і вядучая на "Андрэйках")***: "Я на гэтым мерапрыемстве другі раз як аніматар. У параўнанні з мінулым годам сёння моладзь была больш актыўная. Прыехала больш людзей, бачна, што многія знаёмыя паміж сабой, бачацца на іншых мерапрыемствах, усе "свае" паміж сабой. У нас не было мэты над нечым сур'ёзна думаць – усе хочуць проста патусіць перад Адвэнтам (смяецца), таму мы асабліва не грузілі ўдзельнікаў. Мяне вельмі радуе, што пасля такіх актыўнасцей яны часта пішуць у сваіх акаўнтах не "было класна і весела", а нешта пра Бога – бачна, што такія мерапрыемствы іх змяняюць.

Калі гурт "TALITHAKUM" праводзіў малітву праслаўлення, я адчула сябе максімальна шчаслівай. Гэта пачуццё ўва мне ўжо даўно, але тады проста ўзмацнілася. Бог – абсалютна цудоўны, я не ведаю, як Ён усё гэта робіць... Але ты вучышся жыць з Ім кожны дзень, пускаеш Яго у сваё сэрца і пачынаеш разумець, адкуль бярэцца ўся гэтая моц унутры. Бог – вялікі, Ён дае сілы, любоў, якой хочацца дзяліцца з іншымі і проста радуешся, што ты – тут і зараз".

**Станіслаў, Шаркаўшчына:** "Я весялюся на "Андрэйках" трэці ці чацвёрты раз. Вельмі падабаецца, што тут шмат моладзі, можна сустрэцца з католікамі, аднадумцамі, у якіх такія ж, як у мяне, каштоўнасці і інтарэсы. Асабліва мне сёння запомнілася малітва праслаўлення на канцэрце. Я змог прыслухацца да свайго сэрца і адчуў, што Бог са мной, што Ён заўжды мяне пачуе і дапаможа".

**Крысціна, Ідолта:** "Першы раз на "Андрэйках" была ў 2016 годзе і зараз прыехала зноў, хаця цяжка было выбрацца. Але, хвала Пану, я тут! Мне ўсё спадабалася! Канцэрт і праслаўленне Бога, аніматары – малайцы, робяць усё, каб нас зацікавіць, захапіць, каб мы праслаўлялі Бога не толькі малітвай, але і танцамі, песнямі, нават конкурсамі! Была класная дыскатэка, на якой мы танцавалі "Лодачкі", "Бельгійку" – танцы, без якіх не абыходзіцца ніводная сустрэча маладых католікаў. Калі мы праслаўлялі Бога ў малітве, я дзякавала Яму за тое, што ўсе ж змагла прыехаць у Глыбокае сёння. Таксама адчувала супакой на сэрцы, бо магу не толькі папрасіць аб нечым Бога, але і падзякаваць Яму".

**Марыя, Глыбокае:** "Я трэці раз удзельнічаю ў "Андрэйках". Больш за ўсё мяне ўразіў канцэрт. Была вельмі добрая энергетыка, мы разам праслаўлялі Бога – думаю, гэта ўсім спадабалася, кожны мог праслаўляць Яго і не саромецца гэтага. Сёння многія саромеюцца адкрыта праслаўляць Бога, а тут можна было рабіць гэта адкрыта разам з усімі і не баяцца нічога. У часе малітвы я дзякавала Богу за маё жыццё, за магчымасць прысутнічаць тут сёння, за маіх блізкіх людзей..."

**Таня, Полацк:** "Я была ўпершыню на "Андрэйках". Мне вельмі спадабалася! Калі мы ехалі ў Глыбокае, было вельмі весела. Таксама спадабаліся вясёлыя конкурсы і дыскатэка, на якой мы ўсёй нашай кампаніяй плясалі, нават адзін чалавек голас сарваў! Быў нечаканы канцэрт, бо я думала, што праслаўляць Бога можна спакойнымі спевамі, а было так гучна, сапраўдны рок!"

Упэўнена, што "Андрэйкі: Welcome to the Касцёл" запомніліся асаблівым чынам кожнаму ўдзельніку і кожны змог падзякаваць Богу за нешта, праславіць Яго ў сваім сэрцы і падрыхтавацца да чакання Збаўцы.

# Божае Нараджэнне ў трох словах…

**Калі мы гаворым пра важныя рэчы ў нашым жыцці, то не патрабуецца шматслоўя. Я спытала ў чытачоў "Каталіцкага Весніка", што яны могуць сказаць пра Божае Нараджэнне ў трох словах?**





**Веранікa Мухіна:**
– **Радасць**, бо праз сваё Нараджэнне Бог паказвае зноў нам сваю любоў і міласэрнасць. Яго любоў настолькі неабмежаваная і Ён так моцна нас любіць, што захацеў прыйсці ў свет нават як малое дзіцятка…

**Міласэрнасць**, бо Божае Нараджэнне – асаблівы час, калі ты атрымліваеш шмат увагі і хочацца яшчэ больш увагі і клопату прысвяціць іншаму чалавеку.

**Сустрэча**, бо для мяне гэта вігілія з роднымі, ламанне аплаткам з блізкімі, перапрашэнне і ўзаемнае прабачэнне. Таксама гэта сустрэчы з іншымі людзьмі. Момант, калі сапраўды трэба спыніцца ад мітусні, і прысвяціць час іншай асобе.



**Марыя Лубнеўская:**
– Я магу апісаць Божае Нараджэння трыма словамі: сям'я, шчасце ў маім сэрцы, радасць.

**Сям'я**, бо гэта традыцыйнае свята ў коле родных, рараты, упрыгожванне ёлкі, чаканне прыходу св. Мікалая, і самае галоўнае – дзяленне аплаткам, пажаданні кожнаму з родных і сумесная вігілійная Імша ў касцёле!

**Шчасце ў сэрцы**, бо гэта момант, калі маё сэрца перапаўняецца неверагодным шчасцем, бо ў ім нарадзіўся Езус!

**Радасць**, бо я магу віншаваць сваіх родных і даражэнькіх сяброў, паколькі ў іх таксама нарадзіўся Езус, і кожны з іх па-сапраўднаму радасны! А таксама падарункі і пажаданні кожнаму.

Божае Нараджэння ўвогуле – гэта не толькі пачатак новага літургічнага года ў Касцёле, але і пачатак добрых змен у маім жыцці.



**Павел Харагоргіеў:**
– **Супакой**, таму што нават падчас войнаў салдаты спынялі баявыя дзеянні, ці, прынамсі, не стралялі, таму што ўсе святкавалі адзін і той жа Святы дзень.

**Надзея**, таму што аб'ядноўшыся ў святкаванні, мы становімся бліжэйшымі адно да аднаго, лепшымі. Прыкметна, як людзі становяцца падобнымі да адной сям'і. Так, як і павінна быць.

**Выпраўленне/паляпшэнне**, таму што Дабрыня схіляе нас рабіць яшчэ больш добрых рэчаў і пазбягаць зла, станавіцца на шлях выпраўлення, на шлях дабра і любові, а таксама адмовіцца ад гневу, нянавісці і астатніх заганаў.



**Святлана Вайсковіч:**
– **Чаканне**. Чаго я чакаю? Перш-наперш я чакаю духоўнага ўзмацнення і перамянення. Гэта новы час адліку ў маім жыцці.

**Еднасць**, бо ў гэты своеасаблівы час адчуваеш патрэбу надаваць больш увагі сваёй сям'і – як асабістай, так і парафіяльнай.

**Цуд**, бо Нараджэнне Езуса Хрыста – гэта цуд, які Бог здзейсніў для ўсяго чалавецтва! Збаўца бясконца чыніць цуды. У гэты час я таксама спрабую "чыніць" невялічкія цуды для людзей, якія побач.



**Анастасія Несцяровіч:**
– Сям'я, свечка, любоў.

**Сям'я**, бо ў гэтую святую ноч збіраюцца ўсе родныя і любімыя людзі. Гэта час прабачэння, прынязця і цёплых абдымкаў.

**Свечка**, бо ўтульнасць, святло, цеплыня. Гэта надзея на лепшае. Калі ведаеш, што пасля ўсіх цяжкасцяў, цёмных момантаў, цябе чакае нешта светлае. Бо толькі Божае Святло праганяе цемру і ўвесь страх.

**Любоў**, бо яна бязмежная і ўсёабдымная, у якой няма межаў. Пакрывае ўсё і дае супакой сэрцу, абдорвае радасцю і ўсё прабачае.



**Пётр Глод:**
– **Радасць**, бо на Свет прыходзіць Збаўца!

**Супакой**, бо я адчуваю вялікі супакой у сваім сэрцы, паколькі з намі ўжо ёсць Хрыстус Пан.

**Цішыня каля Дзіцятка Езуса**, бо сучасны свет настолькі гучны, што ён ніколі не змаўкае. Таму цішыню можна адчуць толькі каля Дзіцяткі Езуса, Які сапраўды нараджаецца ў начной цішыні.

*Апытанне праводзіла*
***Вікторыя Колзун***

## Прыміце нашы віншаванні

Пахвалёны Езус Хрыстус!

Нашы шматлікія шчырыя віншаванні і пажаданні дабра і шчасця, спалучаныя з нашай штодзённай малітвай, дасылаем першаму біскупу Віцебскай дыяцэзіі Уладзіславу Бліну, нашаму біскупу Алегу Буткевічу, усім святарам і кансэкраваным асобам нашай дыяцэзіі з нагоды Божага Нараджэння і Новага 2020 года! Шчыра вітаем усіх, дзякуем і сардэчна жадаем далейшага паспяховага служэння на хвалу Богу і ўсяго Каталіцкага Касцёла!

Асаблівa цёплыя словы віншавання і падзякі скіроўваем ксяндзам, якія прыязджалі ў нашу парафію: Генадзю Добрyку, Яцэку Маркоўскаму, Мечыславу Янчышыну, Славаміру Самковічу, Юрыю Жаўняровічу, Анджэю Бульчаку, Аляксандру Барану і нашаму пробашчу – ксяндзу Мікалаю Ліпскаму.

На працягу шасці гадоў жыў у Чашніках і выконваў святарскую паслугу ксёндз Анджэй Бульчак. За гэты час ксёндз Анджэй здолеў адкрыць для нас прыгажосць каталіцкай веры, сагрэць сэрцы і душы людзей. Ад



шчырага сэрца дзякуем Вам, шаноўны ксёндз Анджэй, за Вашу нястомную працу па адраджэнню каталіцкай веры ў душах і сэрцах чашнічан, за будаўніцтва касцёла, за бязмежную любоў да людзей, да дзетак, за ласку і дабрыню! Няхай радасць, якая прамяніцца ў Вашай асобе, у Божых словах, у Вашых вачах і ўсмешцы, напаўняе таксама тых, да каго пажадае пасланьць свайго сапраўднага святара Езус Хрыстус!

Праз нашы шчырыя малітвы просім Пана Бога, каб узнагародзіў моцным здароўем, духоўнай мудрасцю і сілай, нязгасным запалам у выкананні святарскай працы адказнага, працавітага, ветлівага і вельмі сціплага ксяндза Мікалая Ліпскага – нашага цяперашняга пробашча. З годнасцю служачы на Божай ніве ксёндз Мікалай клапоціцца пра даручаны яму касцёл у Чашніках і старaецца зрабіць яшчэ парафіян больш адмысловым, духоўна разнастайным і пазнавальным. Вялікую дапамогу ў штодзённай працы ксяндзу Мікалаю аказваюць яго бацькі. Аддаўшы адзінага сына на служэнне Богу, людзям і Каталіцкаму Касцёлу, яны заўсёды будуць ганарыцца ім, ягонымі справамі, святарскай дзейнасцю. Шчыра дзякуем бацькам ксяндза Мікалая за дапамогу на карысць нашага касцёла.

З вялікай пашанай звяртаемся да ўсіх бацькоў ксяндзоў, клерыкаў, кансэкраваных асобаў: хай заўсёды спадарожнічае вам і вашым дзецям дабро, павага і любоў удзячных вернікаў. Жадаем усім радаснага жыцця, прасякнутага духоўнай творчасцю і стваральнай працай, любоўю і міласэрнасцю!

***З вялікай павагай і ўдзячнасцю, парафіяне касцёла Перамянення Пана ў г. Чашнікі***

**Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску**

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца.
Святая Імша адпраўляецца кожны аўторак а 16.00.
Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.
**Тэл. +375(29) 510-20-77 кс. Андрэй Аніскевіч**
**Тэл. +375(29) 894-55-11 сп. Яўгенія**

## Пакой для малітвы

у Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.

Малітва – набажэнства, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакрамантальная паслуга, размова, кожны чацвер з 17.00.
Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне:
+ 375 29 78 51 298

# Каляндар на студзень

**1 студзеня – Урачыстасць Святой Багародзіцы Марыі.**



Дзева Марыя лічыцца самай вялікай хрысціянскай святой. Марыя нарадзіла Езуса пасля беззаганнага зачацця, аднак і сама Яна была таксама плёнам беззаганнага зачацця. Гэты факт каталіцкія тэолагі разглядаюць як лагічную ўмову, якая падрыхтавала Яе да ролі Маці Збаўцы. Тэалагічная дактрына Рыма-Каталіцкага Касцёла прызнае той факт, што Дзева Марыя з'яўляецца пасярэдніцай паміж Езусам Хрыстом і ўсім чалавечым родам, бо Яна – Маці Збаўцы, праз Яе прыйшла ласка да людзей.

**2 студзеня – успамін святых Базыля Вялікага і Грыгорыя Назіянзскага, біскупаў і доктараў Касцёла.**



Святыя Базыль (Васіль) Вялікі і Грыгорый Назіянзскі нарадзіліся каля 330 г. у Кападокіі (на тэрыторыі сучаснай Турцыі) і паходзілі з хрысціянскіх сем'яў. Часта ў хрысціянскай літаратуры разам са сваім сябрам Грыгорыем Ніскім гэтыя святыя вядомыя як айцы-кападакійцы – гэта агульная назва айцоў Касцёла другой паловы IV стагоддзя, якія завяршылі фармальна-дыялектычную апрацоўку дагмата пра Святую Тройцу.

Базыль і Грыгорый былі вельмі адукаванымі людзьмі. Яны пазнаёміліся ў Афінах, дзе разам вучыліся. Згодна з тагачаснымі звычаямі, хрост прынялі ўжо ў сталым узросце, маючы каля 30 гадоў, пасля чаго разам адасобіліся ў пустыні і склалі падрабязны звод правілаў для манахаў. Ідэалам манаскага жыцця, паводле Базыля Вялікага, была братэрская супольнасць, якая жыве аскетызмам, медытацыяй, а таксама прыслугоўвае Касцёлу праз навучанне веры (адкрыванне і спасцiганне Божага Аб'яўлення, абарона супраць ерасяў), пастырскую і дабрачынную дзейнасцю. Святы Базыль апрацаваў старажытныя літургічныя тэксты і склаў літургію (чын св. Базыля Вялікага), якая да гэтага часу служыцца ва ўсходніх Цэрквах у вызначаныя дні.

Праз пэўны час абодва сталі святарамі, а пазней – біскупамі: Базыль – у Кесарыі Кападоцкай, а Грыгорый – у Назіянзе. Да таго ж Грыгорый, выбраны духавенствам і народам біскупам Канстанцінопаля, некалькі месяцаў займаў гэтую кафедру, але вырашыў адмовіцца ад яе і вярнуўся ў Назіянз. Грыгорый быў вялікім багасловам, паэтам і гуманістам. Да нашых часоў захавалася 45 казанняў, 245 лістоў, 507 паэтычных твораў святога Грыгорыя. Ён з'яўляецца заступнікам паэтаў і базыльянаў. На Усходзе Грыгорыя называюць "Боскім", а таксама "Багасловам". Магчыма, нездарма ўспамін святога Грыгорыя адбываецца разам, у адзін дзень, з успамінам святога Базыля, бо як на зямлі аб'ядноўвала іх сяброўства ў Хрысце, так і на нябёсах падзяляюць супольную хвалу.

**3 студзеня – успамін Найсвяцейшага Імя Езуса.**

**6 студзеня – Урачыстасць Аб'яўлення Пана (Тры Каралі).**

Касцёл успамінае ў гэты дзень вешчуноў, што



прынеслі Дзіцятку Езусу свае дары: золата, ладан і смірну. Касцельная традыцыя называе гэтых вешчуноў таксама каралямі (адсюль іншая назва свята – Тры Каралі), а іх пакланенне сімвалізуе пачатак Божага Аб'яўлення язычнікам народам, прадстаўнікамі якіх яны былі. Колькі дакладна было ў Бэтлееме вешчуноў, біблейская гісторыя не гаворыць, але свету вядомыя ўсяго тры дары-скарбы, і таму хрысціяне здаўна лічаць, што вешчуноў было таксама трое. Пазней традыцыя, абапіраючыся на апакрыфічнае Евангелле IV ст., называе нават іх імёны – Каспар, Мельхіёр і Бальтазар – і падрабязна апісвае іх выгляд. У гэты дзень прынята асвячаць золата, кадзіла, міру і крэйду, якой потым пазначаюцца дзверы жылля, пішуць на іх актуальны год і першыя літары надпісу "Christus mansionem benedicat", што азначае "Хрыстус блаславіў гэты дом": C+M+B+2020

**12 студзеня – Свята Хросту Пана.**



У нядзелю пасля ўрачыстасці Аб'яўлення Пана Касцёл адзначае свята Хросту Пана, якім па традыцыі завяршаецца перыяд Божага Нараджэння. У Евангеллі паводле Мацвея апавядаецца, што Езус прыйшоў з Галілеі над Іарданам да св. Яна, каб прыняць хрост ад яго. Але Ян спыніў Езуса, прамовіўшы: "Гэта мне трэба хрысціцца ад Цябе". Аднак Езус хацеў выканаць усё тое, што было справядліва. Калі Езус выйшаў з вады, нябёсы адкрыліся і Дух Святы ў абліччы голуба сышоў на Яго, а голас з неба прамовіў: "Ты Сын Мой умілаваны, Цябе ўпадабаў Я" (пар. Лк 3, 21–22). Падзея Хросту Езуса стала таксама першым у гісторыі выпадкам аб'яўлення ўсёй Святой Тройцы ў бачных постацях (трынітарная эпіфанія), калі Бог Айцец прамаўляе, Сын Божы існуе ў чалавечай постаці, а Дух Святы з'яўляецца ў абліччы голуба.

**25 студзеня – свята навяртання св. Паўла, апостала.**

Навяртанне святога Паўла з'яўляецца адной з найважнейшых падзей у Касцёле. Саул – заўзяты фарысей і пераследавальнік Касцёла – па прычыне аб'яўлення яму Хрыста Уваскрослага каля брам Дамаска стаў не толькі Яго вучнем. Адразу пасля навяртання Павел пачаў нястомна абвяшчаць Евангелле паўсюль, куды яго пасылаў




Святы Дух. Паўлу ўдалося пераканаць апосталаў не чыніць перашкодаў для навяртання язычнікаў, і ўсё больш язычнікаў прымала слова Божае, праз хрост далучаючыся да Касцёла. Падчас трох місіянерскіх падарожжаў апостал абвяшчае Евангелле і стварае хрысціянскія супольнасці ў Аравіі, Сірыі, Малой Азіі, Македоніі, Грэцыі, Турцыі і іншых краінах. Павел, прыкладна ў 64-67 гг. прыняў у Рыме мучаніцкую смерць праз адсячэнне галавы. Яго называюць Апосталам народаў і лічаць першым хрысціянскім тэолагам.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

## На студзень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**3** студзеня – **дзень нараджэння** адзначаюць **а. Анджэй Юхневіч OMI** *(Шуміліна)*, **кс. Аляксандр Грыцкевіч** *(Верхнядзвінск)*;

**4** студзеня – **дзень нараджэння** адзначае **а. Станіслаў Памыкала SJ** *(Віцебск)*;

**6** студзеня – **дзень нараджэння** адзначае **кс. канонік Вячаслаў Барок** *(Расоны)*;

**12** студзеня – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Андрэй Таўрук** *(Канстанцінава)*;

**18** студзеня – **гадавіну біскупскай сакры** адзначае **біскуп Алег Буткевіч**;

**19** студзеня – **імяніны** адзначаюць **кс. Генадзій Ляўкоў** *(Дрысвяты)*, **кс. Дзмітрый Рацько** *(Празарокі)*, **кс. Генадзій Рэйшаль** *(Шаркаўшчына)*;

**21** студзеня – **імяніны** адзначае **а. Яраслаў Банасяк OFMConv** *(Удзела)*;

**27** студзеня – **дзень нараджэння** адзначае **кс. пралат Аляксандр Рагіня** *(Аргенціна)*;

**29** студзеня – **імяніны** адзначае **кс. Валерый Орсік** *(Віцебск)*;

**31** студзеня – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Юрый Жаўняровіч** *(Ахрэмаўцы)*.

*Падрыхтаваў*
***Зміцер Лупач***



## Как распознать приближение конца света?

**В конце времён Господь вернётся в Своём славном теле, согласно нашему исповеданию веры: "...Вновь грядущего со славою судить живых и мёртвых, и Царству Его не будет конца".**

Согласно Священному Писанию, три знака предваряют пришествие Господа: возвещение Евангелия во всех уголках мира, заключительное испытание Церкви и обращение евреев.

Вот что говорится об этом в Катехизисе Католической Церкви: "После Вознесения пришествие Христа во славе неминуемо, даже если не наше "дело знать времена или сроки, которые Отец положил в Своей власти" (Деян 1, 7),... эсхатологическое второе пришествие Христа может совершиться в любой момент, даже если оно "удерживается" – оно и последнее испытание, которое будет ему предшествовать" (673). Это пояснение сопровождается ссылками на Новый Завет, в частности, на слова святого апостола Павла из Второго послания к Фессалоникийцам (2,3-12): "Да не обольстит вас никто никак: ибо день тот не придёт, доколе не придёт прежде отступление и не откроется человек греха, сын погибели, противящийся и превозносящийся выше всего, называемого Богом или святынею, так что в храме Божием сядет он, как Бог, выдавая себя за Бога. Не помните ли, что Я, еще находясь у вас, говорил вам это? И ныне вы знаете, что не допускает открыться ему в свое время. Ибо тайна беззакония уже в действии, только не совершится до тех пор, пока не будет взят от среды удерживающий теперь. И тогда откроется беззаконник, которого Господь Иисус убьёт духом уст Своих и истребит явлением пришествия Своего того, которого пришествие, по действию сатаны, будет со всякою силою и знамениями и чудесами ложными, и со всяким неправедным обольщением погибающих за то, что они не приняли любви истины для своего спасения. И за сие пошлёт им Бог действие заблуждения, так что они будут верить лжи, да будут осуждены все, не веровавшие истине, но возлюбившие неправду".

Однако пришествие Господа, которое может наступить в любой момент, задерживается, и Катехизис объясняет причину этой задержки следующим образом: "Пришествие Мессии во славе, которое может ожидаться в каждый момент истории, обусловлено Его признанием "всем Израилем" (Рим 11, 26; Мф 23, 39), в котором по отношению к Иисусу "отчасти" произошло "ожесточение" (Рим 11, 25) в "неверии" (Рим 11, 20). Св. апостол Пётр говорит об этом иудеям после Пятидесятницы: "Итак, покайтесь и обратитесь, чтобы загладились грехи ваши, да придут времена отрады от лица Господа, и да пошлёт Он предназначенного вам Иисуса Христа, Которого небо должно было принять до времен совершения всего, что говорил Бог устами всех святых Своих пророков от века" (Деян 3, 19–21). Откликом сему звучат слова св. Павла: "Ибо если отвержение их – примирение мира, то что будет принятие, как не жизнь из мёртвых?" (Рим 11, 15). Вступление "полноты их (иудеев)" (Рим 11, 12) в мессианское спасение вслед за "полным числом язычников" (Рим 11, 25) даст народу Божию прийти "в меру полного возраста Христова" (Еф 4, 13), где "будет Бог всё во всем"" (ККК 674).

Что касается последнего испытания Церкви, то можно привести следующие слова из Катехизиса: "До второго пришествия Христа Церковь должна пройти через последнее испытание, которое подорвёт веру у многих верующих. Преследования, которые сопровождают земное паломничество Церкви, откроют "тайну беззакония" в форме лжерелигии, приносящей людям мнимое решение их проблем ценой отступничества от истины. Крайняя форма лжерелигии есть поклонение антихристу, то есть лжемессианизм, где человек прославляет себя самого вместо Бога и Его Мессии, пришедшего во плоти" (675). И далее: "Церковь вступит во славу Царства только через эту последнюю Пасху, где она последует за Своим Господом в Его смерти и воскресении. Царство, таким образом, будет обретено не через историческое торжество Церкви, достигнутое продвижением вверх, но через победу Бога над злом в его последнем наступлении, победу, которая заставит сойти с неба Его Невесту. Торжество Бога над мятежом зла примет форму Страшного суда после окончательного космического крушения этого преходящего мира" (677).

В "Откровении святого Иоанна Богослова" говорится о нисхождении Небесного Иерусалима: "И я, Иоанн, увидел святый город Иерусалим, новый, сходящий от Бога с неба, приготовленный как невеста, украшенная для мужа своего" (21,2). Святые будут сопровождать Господа во время Его возвращения, чтобы участвовать во всеобщем воскресении плоти.

*Радио Ватикана*

# Я ў дзяцінстве гуляла ў магію...

***– Хвала Хрысту! У дзяцінстве часта мы гулялі з сяброўкамі ў магію, гэта значыць так, для смеху, варажылі на картах і... розныя такія рэчы. Зараз я ўспомніла гэта, і мяне дакарае сумленне. Скажыце, ці дастаткова ў такім выпадку споведзі?***

*Юлія*



– Хвала навекі, Юлія!

Для адказу на Вашае пытанне спачатку звернемся да этымалогіі, каб лепш зразумець, што такое магія.

Лацінскае слова *magia* паходзіць ад грэцкага слова mageia, а яно, верагодна, у сваю чаргу, паходзіць са старажытна-персідскай мовы – *magush*, якое мае корань *magh*, і азначае "мець сілу". Магі належалі да паганскай старажытна-персідскай святарскай касты. Такім чынам, можна сказаць, што магія – гэта пэўныя дзеянні, заснаваныя на ідэі, што ў прыродзе існуюць акультныя сілы і іх можна выклікаць з дапамогай вераванняў і нейкіх практык і так атрымаць адпаведную выгаду ці навесці бяду альбо праклён на іншага.

Усе гэтыя дзеянні звязаныя з нашай верай альбо з яе адсутнасцю. А калі гаворка ідзе пра пытанні, якія датычацца веры, як заўсёды, найлепшы адказ нам дае Катэхізіс Каталіцкага Касцёла. У нумары 2117 мы можам прачытаць: *"Усякае ўжыванне магіі або варажбы, з дапамогай якіх спрабуюць прыручыць акультныя сілы, каб карыстацца імі і валодаць звышнатуральнай уладай над бліжнім, нават і для таго, каб дадаць яму здароўя, сур'ёзна супярэчыць рэлігійным цнотам. Такога кшталту практыка тым больш недазволеная ў выпадку, калі да яе звяртаюцца з намерам нашкодзіць камунебудзь ці калі гаворка ідзе пра ўмяшанне бесаў. Таксама заслугоўвае вымовы звычка насіць амулеты. Спірытызм часта вядзе да варажбы або магіі. Таму Касцёл папярэджвае вернікаў, што трэба пазбягаць яго. Зварот да так званай народнай медыцыны не ўзаконьвае ні выклікання злых духаў, ні эксплуатацыю чыёйсьці даверлівасці."*

Гэта кажа нам пра дзве рэчы. Перш за ўсё, магія мае пэўнае славалюбства альбо амбітнасць – праз магічныя дзеянні, замовы, рытуалы, малітвы, праклёны ўздзейнічаць на асобу, ужываючы моц цёмных сілаў, д'ябла, каб ёй нашкодзіць і такім чынам прымусіць чалавека, напрыклад, закахацца, вылечыць хваробу альбо зрабіць яго хворым, навесці псоту і гэтак далей. Іншымі словамі, займацца магіяй – азначае рабіць зло з дапамогай д'ябла. Нават так званая "белая магія", якая падаецца як добрая ў тым сэнсе, што яна спрыяе добрым рэчам, напрыклад, пошуку працы ці аздараўленню, на самай справе ідэнтычная "чорнай": той, хто займаецца магіяй, заўсёды праз свае дзеянні і абрады звяртаецца да акультных сілаў. Трэба ясна зразумець, што не існуе розніцы паміж "белай" альбо "чорнай" магіяй. Магія заўсёды застанецца магіяй.

> **"не існуе розніцы паміж "белай" альбо "чорнай" магіяй. Магія заўсёды застанецца магіяй"**

Іншая рэч заключаецца ў тым, што магія моцна супярэчыць першай запаведзі, якая гучыць так: "Не май іншых багоў, апроч Мяне" (Зыход 20, 3). Той, хто звяртаецца да чараўнікоў, варажбітаў, акультыстаў, "святых людзей", "бабак" і г.д., каб пазнаць сваю будучыню, аздаравіцца альбо здзейсніць іншыя магічныя рытуалы, робіць цяжкі грэх супраць веры і абавязаны спавядацца з гэтага, каб вярнуцца ў стан асвячальнай Божай ласкі, нават калі з моманту звароту да варажбіта альбо мага прайшло шмат часу.

Бывае, у нас можа ўзнікнуць страх перад такога кшталту рэчамі, перад чарамі, праклёнамі, магіяй і г.д., а таксама і пытанне, ці можа чалавек, які знаходзіцца ў стане Божай ласкі, супрацьстаяць уздзеянню магічных абрадаў?



На гэтае пытанне можна адказаць, што значна складаней нанесці "ўдар" па чалавеку, які знаходзіцца ў стане ласкі, які пастаянна карыстаецца святымі сакрамантамі і праводзіць хрысціянскае жыццё, але такое, безумоўна, таксама магчыма.

Такім чынам, чалавек, які свядома займаецца магіяй альбо карыстаецца паслугамі магаў, варажбітак і да т.п., робіць смяротны грэх, а смяротны грэх нішчыць Божую любоў у чалавечым сэрцы цяжкім парушэннем Божага закону, а таксама адштурхоўвае чалавека ад Бога, ставячы на Яго месца тое, што ніжэй па ўзроўні за самога Бога.

Катэхізіс Каталіцкага Касцёла ў нумарах 1854-1864 акрэслівае паняцце смяротнага граху. Грэх з'яўляецца смяротным, калі супадаюць тры ўмовы адначасова:

- сур'ёзнасць матэрыі, якая вызначаецца 10 запаведзямі;
- поўная свядомасць, што я раблю грэх;
- поўная згода на грэх.

З "гульні" ў магію, трэба спавядацца, каб атрымаць Божае прабачэнне, бо парушаецца Першая з Дзесяці запаведзей. Наколькі гэта было свядомым парушэннем, павінны высветліць Вы самі падчас святой споведзі.

Неўсведамленне ж граху можа аслабіць цяжкасць віны ці нават увогуле вызваліць ад яе. Але ніхто не мае права застацца ў няведанні прынцыпаў маральнага закону, упісаных у сумленне кожнага чалавека.

Таму заклікаю ўсіх, хто лічыць сябе вернікам, пазбягаць звароту да варажбітак, не гуляць у магію, не звяртацца да гараскопаў і памятаць словы святога апостала Пятра з Першага Паслання, у якім ён кажа: "Будзьце цвярозымі, чувайце. Праціўнік ваш, д'ябал, як леў, кружыць з рыкам, шукаючы, каго пажэрці" (5, 8).

*З малітвай,*
***кс. Аляксей Ляшко***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Паважаная рэдакцыя нашай любімай газеты! Спяшаемся з Вашай дапамогай павіншаваць нашага **ксяндза Віталя Гальца** з Днём нараджэння, які ён адзначыў 16 снежня!*

*Жадаем Вам, шаноўны ксёндз Віталь, моцнага здароўя, плённага святарскага служэння, апекі Панны Марыі, дароў Духа Святога! Няхай міласэрны Езус кожны дзень прытуляе Вас да свайго сэрца і благаслаўляе на адданую працу на карысць касцёла і парафіі! Дзякуем Вам за ўсмешку, за добрыя словы, за шчырую малітву і за абвяшчэнне Божага Слова!*

***З павагай,***
***вернікі парафіі Св. Лаўрэна з г.п. Ушачы***

## Шаноўны ксёндз Марат Казлоўскі!



*Прыміце нашы шчырыя віншаванні з Божым Нараджэннем і з Новым годам!*

*Жадаем Вам, ксёндз Марат, моцнага здароўя, душэўнага супакою, нястомнай радасці і добрага настрою, толькі добразычлівых людзей побач! Хай Добры Бог адорвае Вас сваім святлом і патрэбнай ласкай, а Святы Заступнік хай заўсёды знаходзіцца побач!*

*7 снежня – Дзень нараджэння ў мамы ксяндза Марата.*

*Паважаная Ядзвіга Канстанцінаўна! Жадаем Вам здароўя на доўгія гады, сямейнага дабрабыту. Няхай Маці Божая атуліць Вас апекай, а Божая міласэрнасць Вас падтрымлівае!*

***З павагай і ўдзячнасцю, парафіянкі касцёла Святой Ганны ў Мосары – Часлава Лаўрыновіч, Марыя Ткачонак, Алена Балай***

## Хвала Хрысту!



*Паважаны **ксёндз Мікалай Ліпскі**! Віншуем з Днём св. Мікалая. Ад душы жадаем здароўя, цярпення, мудрасці, бадзёрасці, плёну, мужнасці. Хай на Вашым шляху гараць агні веры і надзеі, каб для Вашых парафіян шчырая малітва і добрае Вашае слова заўсёды былі яркім святлом і натхненнем, каб пачатыя справы і старанні мелі высокую павагу і заслугу.*

***Вашыя былыя вернікі***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Шчыра віншую ўвесь **калектыў рэдакцыі "Каталіцкага Весніка"** з надыходам свята Божага Нараджэння і з Новым годам! Жадаю ўсім моцнага здароўя і ўсяго найлепшага ў жыцці і ў працы!*

***З павагай, Вінцэнты Навіцкі, г. Браслаў***



## Хвала Хрысту!



*Паважаны **ксёндз Андрэй Аніскевіч**!*

*З нагоды імянінаў, якія Вы адзначылі 30 лістапада, прыміце самыя шчырыя пажаданні моцнага здароўя, невычэрпнай энергіі, вытрымкі і цярпення! Жадаем Вам Божага бласлаўлення, апекі Маці Божай, дароў Духа Святога!*

*Шчыра дзякуем за адданую службу Богу, за Вашы цёплыя, душэўныя адносіны да людзей. Няхай Вашыя мудрасць, дабрыня і клопат пра людзей заўсёды будуць прыкладам для нас! Вашы добрыя справы назаўсёды ў нашых сэрцах!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Святога Казіміра ў г. Лепелі***

## Хвала Хрысту!



*Ад усяго сэрца віншую **ксяндза Адама Квяткоўскага** з імянінамі і Днём нараджэння (адпаведна 24-25 снежня)!*

*Жадаю Вам, ксёндз Адам, моцнага здароўя, бадзёрасці, аптымізму, Божай падтрымкі ва ўсіх Вашых справах. Няхай Усемагутны Бог дапамагае Вам, а Маці Божая няхай ахіне Вас сваёй апекай і любоўю!*

***З павагай і ўдзячнасцю, Яўгенія Паўлава, г. Віцебск***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*З сардэчнай цеплынёй і пачуццём глыбокай павагі дасылаем шчырыя словы віншавання нашаму **ксяндзу Раману Мурзічу** з нагоды Дня нараджэння, які ён адзначыў 11 снежня!*

*Дзякуем Пану Богу, што ў нашай парафіі ёсць такі святар, які шмат працуе і клапоціцца пра парафію і Касцёл.*

*Жадаем Вам, ксёндз Раман, Божай мудрасці, моцнага здароўя, цярплівасці на святарскім шляху, радасных дзён! Няхай Езус Хрыстус бласлаўляе кожны Ваш дзень, а Маці Божая хай ахінае мацярынскай любоўю! Няхай Святы Дух дапамагае выконваць душпастырскую паслугу і шчодра адорвае ласкамі!*

*Божага блаславення Вам і Вашым родным!*

***З павагай, удзячнасцю і з малітвамі, вернікі парафіі Імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў Параф'янаве***

## Віншуем!

*11 лістапада чарговую гадавіну святарскага пасвячэння адзначыў **ксёндз Сяргей Сурыновіч**.*

*Мы, парафіяне капліцы Святога Юзафа ў аг. Друйск, сардэчна віншуем Вас, ксёндз Сяргей, дзякуем і нізка кланяемся за чалавечнасць, за адкрытасць і вялікую адданасць у імя святой справы! Толькі дзякуючы Вашым намаганням у нас ёсць каплічка, наша радасць.*

*Жадаем Вам Божай ласкі, апекі Маці Божай, моцнага здароўя! Няхай Добры Бог бласлаўляе Вашых бацькоў, якія далі Вам жыццё і выхавалі для нас цудоўнага святара!*

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 7**

1 – В; 2 – А; 3 – Б; 4 – В; 5 – Б; 6 – Б; 7 – В; 8 – Б

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Паважаны **ксёндз Альфрэд Пяхота**! Прыміце нашыя самыя сардэчныя віншаванні з нагоды Вашых імянін! Жадаем Вам моцнага здароўя, душэўнага спакою, Божай падтрымкі ва ўсіх справах, шчырых вернікаў на Вашым шляху!*

*Жадаем, каб Ваша душа заўсёды заставалася чыстай і адкрытай, каб на Вашым шляху заўсёды гарэлі агні веры і надзеі, каб вернікам шчырая малітва і добрае Ваша слова заўсёды дарылі яркае святло і натхненне, каб усе Вашы пачынанні і старанні мелі высокую заслугу і павагу!*

***З павагай, удзячнасцю і малітвай за Вас, вернікі касцёла Нараджэння Насвяцейшай Панны Марыі ў Відзах***

## Віншуем!

*Паважанаму **ксяндзу Леаніду Мозгелю** з нагоды Дня нараджэння і Калядных святаў сардэчна жадаем моцнага здароўя і штодзённай радасці, каб дарога, якую Вы, шаноўны ксёндз Леанід, абралі, была шчаслівай і добрай, каб Вы і надалей маглі шчыра служыць Богу і людзям! Няхай Вамі нястомна апякуюцца Бог Айцец і Божы Сын, Святы Дух хай пасылае неабходныя дары, Маці Божая няхай ахінае апекай і любоўю, а побач заўсёды хай будуць добразычлівыя людзі!*

Мы выказваем сваю глыбокую пашану і ўдзячнасць за працу ў нашай парафіі, за мудрыя навучанні, якія дапамагалі нам быць сапраўднымі хрысціянамі, за прыклад веры, а таксама за тое, што Вы былі побач з намі і для нас на працягу пятнаццаці гадоў!

Для нас Вы заўсёды будзеце яснай зоркай, якая кожнаму чалавеку ззяе дабрынёй, любоўю і цеплынёй!

Просім Усемагутнага Бога аб патрэбных ласках для Вас!

***З малітвай і павагай, вернікі касцёла Маці Божай Фацімскай з Павяцця***

## Віншуем!

*Паважанаму **ксяндзу Леаніду Мозгелю** з нагоды Дня нараджэння дасылаем самыя сардэчныя пажаданні!*

*Няхай у гэты радасны дзень Хрыстос прытуліць Вас да Свайго Найсвяцейшага Сэрца і адорыць бласлаўленнем, здароўем і ўсімі патрэбнымі ласкамі на доўгія гады жыцця!*

*Сардэчна дзякуем за шматгадовую ахвярную святарскую працу ў нашай парафіі, за Вашу добразычлівасць, за адданасць Богу і Касцёлу, за клопат пра кожнага з нас! А Вашай маме – за шчырага і добрага сына!*

*Мы заўсёды памятаем пра Вас!*

***З удзячнасцю, былыя Вашы парафіяне з Лявонпаля, Дэмскіх, Паташні***

## Хвала Хрысту!



*Паважанаму **ксяндзу Вячаславу Адамовічу** з нагоды святаў Божага Нараджэння і Новага года дасылаем самыя сардэчныя пажаданні!*

*Няхай Нованароджаны Збаўца адорыць Вас моцным здароўем, радасцю, любоўю і надзеяй, Яго Маці хай ахінае Вас сваім мацярынскім заступніцтвам і цеплынёй, а Анёл-ахоўнік няхай заўсёды чувае над Вамі!*

*Няхай Бэтлеемская зорка асвячае Ваша жыццё і прыносіць супакой у сэрца і душу! Шчасці, Божа!*

***Касцельны камітэт і вернікі касцёла Маці Божай Фацімскай з Павяцця***

## Зачем ходить в костёл?

**Зачем нужно ходить в костёл, если я и так крещён, верю и молюсь?**

Верить и молиться – это прекрасно и необходимо. Но в таком случае крещёный человек ничем бы не отличался от некрещёного, например, от катехумена. В Таинстве Крещения в верующем человеке происходит нечто новое. Крещение прививает его ко Христу зримым образом, и с этого момента христианская жизнь питается Таинствами, подобными большим артериям, по которым человеку передается благодать.

Вот что сказал Иисус о Таинстве Евхаристии: "Ядущий Мою Плоть и пиющий Мою Кровь имеет жизнь вечную, и Я воскрешу его в последний день" *(Ин 6,54)*. Это поистине великое обетование! Святой Фома Аквинский так комментировал эти слова Господа: "Как же справедливо наделять таким эффектом Таинство Евхаристии! Как писал Августин, Слово воскрешает души, но Слово, ставшее плотью, оживотворяет тела. Ведь в этом Таинстве Слово пребывает не только в своей Божественности, но и в истине Своей плоти: вот почему оно ведёт не только к воскресению души, но и к воскресению тела. "Ибо как смерть через человека, так через человека и воскресение мёртвых"*(1 Кор 15,21)*. Вот почему так очевидна польза от этой пищи" *(Толкование на Евангелие от Иоанна)*.

В Евхаристии происходит также преображение собственной жизни во Христа. Тот, кто питается Христом, не преобразовывает Его в себя, как это происходит с любой пищей, преобразующейся в нашу собственную плоть. Тот, кто питается Телом Христовым, преобразуется во Христа, то есть обретает новую силу, чтобы всё больше уподобляться Христу и сообразоваться с Ним во всём. Святой Фома Аквинский говорил, что "Евхаристия – это пища, способная сделать человека Божественным и привести его в упоение Своей Божественностью".

Манна небесная, которой питались израильтяне в пустыне, была прообразом Евхаристии. Каково же значении Евхаристии, если уже о манне было сказано: "Народ Твой Ты питал пищею ангельскою, и послал им, нетрудящимся, с неба готовый хлеб, имевший всякую приятность по вкусу каждого. Ибо свойство пищи Твоей показывало Твою любовь к детям, и в удовлетворение желания вкушающего изменялось по вкусу каждого" *(Прем 16, 20-21)*.

Участием в Святой Мессе мы приобщаемся к спасительной жертве Христовой, а также ко всей общине, ведь христианин живёт не для себя, а призван сделаться даром для братьев.

Но есть ещё одно Таинство, в котором все мы нуждаемся: Таинство Примирения для прощения грехов. Недостаточно просить о прощении у Господа в личной молитве, ведь Сам Христос установил Таинство Покаяния в день, когда Он воскрес: "Кому простите грехи, тому простятся; на ком оставите, на том останутся", – сказал Он Своим ученикам. Господу было угодно, чтобы отпущение грехов в Таинстве Покаяния происходило через служителей Иисуса Христа.



Если христианин не участвует в Таинстве Евхаристии и не исповедуется, тем самым он будто показывает Господу, что не нуждается в Его жертве и в Его прощении.

*Радио Ватикана*

# Я буду памятаць гэта!

Хвала Хрысту!

Праз газету "Каталіцкі Веснік" я хачу выказаць сваю падзяку аднаму чалавеку.

Дваццаць гадоў таму (а было гэта ў 2000-ым) я ў складзе пілігрымаў Віцебскай дыяцэзіі наведала Рым, Ватыкан. Па дарозе да гэтых святых месцаў мы прыпыняліся ў Бергама, Венецыі. А каб дабрацца да Італіі, праехалі Польшчу і Аўстрыю. Пілігрымка доўжылася два тыдні. Уражанні і сёння хвалююць.



Безумоўна, у дарозе мне было нялёгка. Памятаю, як пажарныя машыны аблівалі людзей, што мучыліся ад спякоты (амаль +38, а можа і больш). Было гэта ў Рыме, а дакладней, за горадам: на вялікай плошчы ўсе пілігрымы свету чакалі Папу Яна Паўла ІІ.

Тыдзень мы жылі ў школе (у Рыме), начавалі ў спартыўнай зале. Падлога была пакрытая пліткай, ад якой ішла прахалода, асабліва ўначы. А ў мяне не было спальніка, бо ніхто з арганізатараў пілігрымкі пра яго мне не паведаміў. Як начаваць на падлозе, на чым ляжаць? З сабой была толькі лёгкая куртачка. І тады суседка па "спальным месцы" падзялілася паловай свайго спальніка. І сёння так хочацца напярэдадні Божага Нараджэння выказаць Марыі (прозвішча не ведаю) з Мёрскай парафіі ўдзячнасць за хрысціянскую любоў да бліжняга, за яе добрае сэрца.

Адны людзі дзеляць скарынку хлеба напалам, а Марыя падзяліла са мной свой цёплы, мяккі спальнік. Я буду памятаць гэта!

***Вольга Парневіч,***
*(аг. Крулеўшчына,*
*Докшыцкі р-н)*

# Заставайцеся людзьмі!

Жыццё пражыць – не поле перайсці... Так гаворыць народная мудрасць. І гэта цалкам справядліва. Сямейнае жыццё – доўгі і нялёгкі шлях, на якім сустракаюцца як радасці і перамогі, так і расчараванні і няўдачы. Не ва ўсіх атрымліваецца годна прайсці па гэтай дарозе да канца. Прычын таму шмат. Кожная сям'я, якая распалася, няшчасная па-свойму. Распад сям'і – гэта калі не трагедыя, дык дакладна драма для ўсіх яе чальцоў. Такая драма адбылася і ў маім жыцці.

А пачыналі сямейнае жыццё мы годна, з павагай і любоўю адно да аднаго. Касцёл у нашым горадзе ў той час стаяў зачынены, ды і муж быў партыйным. Паехалі мы, узяўшы бабулю (няхай ёй свеціць святло вечнае) у суседні гарадок, каб абвянчацца. Потым пахрысцілі сваіх траіх дзетак. Пяцёра ўнукаў таксама пахрышчаныя ў каталіцкай веры.

І вось ужо дзесяць гадоў я жыву адна. Муж адышоў з гэтага свету па прычыне алкагалізму, не дажыў нават да пенсіі. Апошнія гады сумеснага жыцця былі невыноснымі: лаянкі, здзекі, нават пабоі. Муж ніколі не лічыў сябе вінаватым. На ўсе ўгаворы, нават дзяцей, ён не рэагаваў, бо бутэлька стала для яго найлепшай сяброўкай. Сям'я перастала для яго існаваць. Падрослыя дзеці пераканалі мяне саступіць мужу, бо з такой варожасці маглі аказацца хтосьці ў труне, а хтосьці – у турме. Старэйшая дачка забрала мяне да сябе, але бацьку не пакідалі, прывозілі адзенне, прадукты, аплачвалі кватэру.

Мяне ж мучае сумленне: а можа, трэба было ўсё цярпець, бо мы ж давалі прысягу вернасці падчас вянчання? На жаль, мы не зберaглі свае пачуцці, еднасць у сямейным жыцці. Маіх намаганняў было недастаткова, і гарэлка разбурыла сям'ю, загубіла чалавека.

Чалавек павінен кантраляваць сябе і свае ўчынкі, каб не пераступіць рысу, за якой ён страчвае людскасць і разбураецца як асоба. Таму хачу звярнуцца да моладзі, каб не паўтаралі нашых памылак, любілі адно аднаго і берaглі свае сем'і ад п'янства.

Няхай Святая Сям'я будзе ўзорам сямейнага жыцця для вас!

Хвала Хрысту!

***А. Трафімовіч**, г. Паставы*

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*"Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч*
*Віктар Мар'янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя***
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Мадонна з Гвадэлупы

**Калі я глядзеў амерыканскія фільмы, дзе паказвалася жыццё эмігрантаў з Лацінскай Амерыкі, то часта можна было заўважыць на сцэнах ружанцы, абраз Сэрца Пана Езуса або абраз Маці Божай з Гвадэлупы. Маці Божая Гвадэлупская з'яўляецца апякункай Мексікі, але таксама і ўсёй Лацінскай Амерыкі, Філіпінаў і многіх іншых дзяржаваў. Адкуль узяўся гэты культ? Прапаную невялічкую катэхезу на гэтую тэму.**

**а. Аляксандр Жарнасек MIC**, *viartannie.org*

## Крывавыя ацтэкі

У тых, хто цікавіцца сусветнай геаграфіяй або гісторыяй, цывілізацыі плямёнаў майя і ацтэкаў, бадай, заўсёды выклікалі захапленне. Гэта цэлыя гарады, пабудаваныя сярод скалаў і джунгляў Лацінскай Амерыкі. Гэта цэлая цывілізацыя, якая сапраўды выклікае захапленне. Ацтэкі былі адукаваным народам. Іх веды па астраноміі, медыцыне, архітэктуры і матэматыцы знаходзіліся на высокім узроўні. У XV ст., калі іспанцы адкрывалі і заваёўвалі Лацінскую Амерыку, над ацтэкамі навісла небяспека, ад якой яны так і не змаглі ўратавацца. Гэты народ, падобна як і майя, не змог выстаяць у вайне з добра падрыхтаванымі і ўзброенымі каланізатарамі.

Калі мы ўсё гэта чуем, то само сабой нараджаецца пачуццё грамадскай несправядлівасці і хочацца асудзіць хрысціян-іспанцаў за іх жорсткасць. Так многія думаюць. Вядома, іспанцы былі захопнікамі, аднак не ўсё так проста. Калі яны заваёўвалі гарады ацтэкаў, то часта не маглі аправіцца ад эмацыйнага шоку пасля таго, што знаходзілі ў гэтых гарадах. У кожным большым горадзе былі паганскія святыні ў выглядзе своеасаблівай піраміды. На вяршыні стаяў каменны алтар, на якім людзей прыносілі ў ахвяру паганскім ідалам. У жывога чалавека выразалі сэрца, палілі яго, а цела скідвалі з прыступак уніз. У сярэднім у год забівалі каля 50-60 тысяч людзей. У 1487 годзе, калі пасвячалі новую святыню, за чатыры дні забілі каля 80 тыс. чалавек.

Паколькі ацтэкі былі ваяўнічым плямем, то забівалі пераважна палонных, але не толькі. Адна пятая забітых – гэта дзеці. Вельмі паказальна для нас, хрысціянаў, тое, што ацтэкі малявалі сваіх багоў у выглядзе змея, які нібыта аб'явіўся іхнім продкам на небе.

## Спробы евангелізацыі

У 1509 г. сястра караля ацтэкаў убачыла сон. Ёй аб'явіўся анёл, які ўзяў яе за руку і павёў да берага ракі. Там яна ўбачыла шмат караблёў з белымі ветразямі і чорнымі крыжамі. Анёл сказаў, што гэтыя чужакі прынясуць ацтэкам сапраўднага Бога. Сон споўніўся ў 1519 г., калі іспанец Герман Картэз прыплыў з Кубы да ацтэкаў у суправаджэнні двух святароў і 550 мужчынаў. Караблі выглядалі як у сне. Картэз сышоў на бераг 22 красавіка, а гэта была Вялікая Пятніца. Ацтэкі ў гэты дзень чакалі аб'яўлення свайго бога, і таму кароль не мог пачаць ваяваць з іспанцамі, бо людзі думалі, ці выпадкова яны не з'яўляюцца тымі багамі? Картэз з 300 узброенымі жаўнерамі пачаў паступова вызваляць палонных індзейцаў, якія станавіліся яго паплечнікамі. Такім чынам ён сабраў 30-тысячнае войска і праз тры месяцы захапіў сталіцу ацтэкаў. Ён нішчыў паганскія святыні, ставіў крыжы і фігуры Маці Божай.

Картэз быў рэлігійным чалавекам і гарачым евангелізатарам, аднак у яго войску індзейцы размаўлялі на розных дыялектах і цяжка было дамовіцца, а таму евангелізацыя не ішла так, як бы гэтага хацелася. Да таго ж сярод тых жа індзейцаў было шмат паганскіх практыкаў. Удалося толькі забараніць ахвяры з людзей. Картэз напісаў каралю Іспаніі просьбу, каб прыслалі місіянераў. У 1524 г. прыбыла група францішканаў. Аднак іх праца не мела чаканых вынікаў, бо разам з імі прыбылі канкістадоры, якія пачалі рабаваць і займацца гвалтам, бо лічылі, што індзейцы не маюць душы. Францішкане спрабавалі гэтаму супраціўляцца і ў выніку загінулі пакутніцкай смерцю. Калі кароль забараніў рабства, ужо было позна. Мясцовыя жыхары перасталі верыць іспанцам і іхняму Богу. Кароль прасіў Марыю, каб змяніла гэтую сітуацыю. І цуд адбыўся!

## Марыя ступіла на мексіканскую зямлю

9 снежня 1531 г. Хуан Дыега, адзін з індзейцаў, які перажыў навяртанне і прыняў Хрост ва ўзросце 51 года, ішоў на святую Імшу. Ён жыў за 15 кіламетраў ад Мехіка, але, нягледзячы на гэта, штодзённа хадзіў на Эўхарыстыю. Ідучы на Імшу і праходзячы міма святыні паганскай багіні, ён пачуў спеў агромністай колькасці птушак і ўбачыў таямнічую жанчыну. Яна была даволі высокай, у прыгожай вопратцы, а пад яе нагамі нібы свяціліся каштоўныя камяні. Хуану Дыегу здалося, што ён трапіў у нейкі зямны рай. Ён зразумеў, што гэта Маці Божая!

Марыя спытала, куды ён ідзе. Мужчына адказаў, што на святую Імшу. Марыя сказала, што хоча, каб Хуан Дыега перадаў біскупу наступную інфармацыю: Яна аб'яўляецца як Маці Міласэрнасці, як тая, хто хоча дапамагаць абяздоленым, хоча дапамагаць на гэтай мексіканскай зямлі, а для гэтага на дадзеным месцы трэба пабудаваць святыню, каб людзі маглі сюды прыходзіць са сваімі праблемамі, каб маглі з Ёй сустракацца. Такім чынам, на месцы святыні паганскай багіні павінна была стаяць святыня ў гонар Маці сапраўднага Бога. Марыя паабяцала таксама, што падтрымае Хуана Дыега ў розных цяжкасцях, калі ён пачне выконваць даверанае яму заданне. На той час ён яшчэ не ведаў, што яго чакае наперадзе. Пасля доўгага чакання, яму ўдалося сустрэцца з біскупам. Быў гэта францішканін ва ўзросце Хуана Дыега, і ён не паверыў у аб'яўленне Марыі.

Хуан Дыега ў той самы дзень вярнуўся на месца, дзе сустрэў Марыю. Багародзіца была там. Ён папрасіў прабачэння за тое, што не змог выканаць даручанага задання і папрасіў, каб Марыя паслала некага больш знатнага і больш уплывовага. Марыя адказала, што ў яе ёсць верныя людзі, але Яна хоча, каб менавіта Хуан Дыега выканаў гэтае заданне і менавіта таму яму трэба будзе на наступны дзень зноў пайсці да біскупа і перадаць змест размовы з Божай Маці.

На наступны дзень, 10 снежня, Хуан Дыега зноў быў у біскупа і сустрэўся ён з яшчэ большымі праблемамі. Біскуп не жадаў з ім гутарыць, а калі пасланец Багародзіцы не саступаў, біскуп сказаў яму зноў, што не верыць і што патрабуе нейкага знаку ад Марыі, доказу аб'яўлення. Сам жа паслаў патаемна людзей, каб тыя сачылі за візіянерам, аднак яны згубілі яго след. Хуан Дыега перадаў словы біскупа Марыі, і Багародзіца паабяцала на наступны дзень даць знак.

Аднак на наступны дзень Хуан Дыега не мог прыйсці на сустрэчу з Божай Маці. Вельмі моцна захварэў яго дзядзя, і ён пабег паклікаць святара. Ён баяўся, што сустрэне па дарозе Марыю і пабег іншым шляхам. Аднак Марыя і там падышла да яго. Чалавек стаў апраўдвацца. Марыя сказала, каб ён не баяўся за здароўе дзядзі, сказала, што Яна клапоціцца пра нас і што яна і ёсць нашае аздараўленне. Багародзіца паабяцала, што дзядзя будзе аздароўлены ў гэтую ж хвіліну, а Хуан Дыега павінен выканаць даверанае яму заданне. Божая Маці сказала яму, каб сабраў на гары кветкі і занёс іх біскупу. У гэтым дзеянні і будзе знак для біскупа. Хуан Дыега пайшоў выконваць заданне і быў здзіўлены тым, што збірае вельмі прыгожыя і пахучыя ружы не ў адпаведны для іх час, а таксама на камяністым месцы, дзе практычна нічога не расло.

Вядома, што да біскупа яго ўжо ніхто не збіраўся пускаць. Усіх толькі цікавіла, што гэта за кветкі, якія ён трымае ў сваёй вопратцы. Калі хацелі іх забраць, Хуан Дыега не аддаваў. Паўстаў шум, і біскуп сам паклікаў да сябе візіянера, бо чакаў знаку. Хуан Дыега высыпаў перад біскупам ружы, як яго і прасіла Марыя. І тут усе ўбачылі, што на вопратцы візіянера адбіўся вобраз Багародзіцы. Біскуп стаў на калені і прасіў у Марыі прабачэння за сваю няверу. Пасля ён узяў тканіну і занёс да сябе ў капліцу.

На наступны дзень Хуан Дыега разам з біскупам і іншымі пайшлі на месца аб'яўленняў, дзе Марыя прасіла, каб быў пабудаваны касцёл. Пасля яны пайшлі да хворага дзядзі, які, як і абяцала Марыя, быў ужо здаровы. Ён распавёў, што яму таксама аб'явілася Багародзіца і сказала, што прагне, каб людзі называлі гэты абраз "Маці Божая з Гвадэлупы". Хуан Дыега разам з дзядзем перасяліліся жыць у палац біскупа і прабылі там аж да заканчэння будовы святыні. Уся гэтая гісторыя вельмі кранула многіх індзейцаў, і яны пачалі прымаць хрысціянства.

## Цуд вачэй Маці Божай з Гвадэлупы

Цудоўны вобраз Маці Божай, адбіты дзівосным чынам на вопратцы Хуана Дыегі, знаходзіцца па сённяшні дзень у базыліцы, якая была пабудаваная на гэтым месцы. У 1929 годзе даследчык абраза заўважыў, што ў правым воку Марыі адбіваецца постаць барадатага мужчыны. Гэта здалося настолькі нерэальным, што ўлады базылікі забаранілі гаварыць пра гэты факт, каб не ўзбуджаць сенсацыі. У 1951 г. іншы навукоўца, даследуючы палатно абраза, зрабіў тую самую выснову. Ад гэтага моманту больш за дваццаць фізікаў і акулістаў рабілі незалежныя даследаванні. У 1956 г. былі чарговыя даследаванні пры ўжыванні самых новых тэхналогій. Вынікам гэтых даследаванняў стала шакавальная выснова: у вачах Марыі адбіваюцца постаці людзей, і гэта не малюнак. Яны адбіваюцца згодна з усімі правіламі жывога вока. Пасля чарговых кампутарных аналізаў у 1979 г. даследчык робіць выснову, што ў вачах Марыі можа быць нейкае актуальнае пасланне для людзей нашага часу.





## Некаторыя даты Аб'яўлення Маці Божай у Гвадэлупе *(Мексіка)*

- **1531** – пачатак аб'яўленняў;
- **1533** – паўстае першы санктуарый;
- **1541** – адзін гісторык-францішканін пакінуў запіс, што каля 9 мільёнаў ацтэкаў прыняло хрысціянскую веру;
- **1548** – памірае Хуан Дыега;
- **1555** – новы біскуп афіцыйна прызнае сапраўднасць аб'яўлення;
- **1666 і 1723** – чарговыя даследаванні аб'яўлення;
- **1737** – Маці Божая з Гвадэлупы аб'яўлена апякункай Мексікі;
- **1767** – прыняты закон, які забараняе езуітам прабываць на тэрыторыі Іспаніі, а праз гэтае рашэнне культ абраза распаўсюджваецца па ўсім свеце;
- **1895** – каранацыя абраза папскімі каронамі пры ўдзеле біскупаў дзвюх Амерык;
- **1910** – Папа Пій X абвяшчае Маці Божую з Гвадэлупы апякункай Лацінскай Амерыкі;
- **1921** – узрываецца бомба, закладзеная пад абразом, і знішчае значную частку святыні, але не шкодзіць самому абразу;
- **1929** – першая заўвага фатографа-даследчыка ў сувязі з вачамі абраза;
- **1935** – Папа Пій XI абвяшчае Маці Божую з Гвадэлупы апякункай Філіпінаў;
- **1945 – 1946** – Папа Пій XII вызнае, што абраз намаляваны фарбамі не з гэтага свету;
- **1951, 1956, 1958, 1962** – чарговыя даследаванні вачэй Марыі з цудоўнага абраза; апошнія даследаванні павялічылі адбіткі людскіх постацяў у вачах Марыі ў 25 разоў;
- **1975, 1979** – чарговыя даследаванні вачэй Марыі;
- **1990** – Папа Ян Павел II абвяшчае візіянера Хуана Дыега блаславёным;
- **2002** – Хуан Дыега прызнаны святым, яго ўспамін у Каталіцкім Касцёле 9 снежня.

Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

# ПАЗНАВАЙКА

**Разам з Пазнавайкай прыпомні сабе гісторыю нараджэння нашага Збаўцы Езуса Хрыста!**

**Прачытай урывак з Евангелля паводле Лукі 2, 1-20**

### Заданне№1

Дапамажы Марыі і Юзафу дабрацца да Бэтлеема, пакажы ім дарогу.





### Заданне №2

Вестку аб нараджэнні Хрыста пастушкам абвясціў анёл, паглядзі, як гэта адбывалася, і знайдзі 5 адрозненняў на малюнках.





### Заданне №3

Аддаць хвалу і сваю пашану маленькаму Езусу спяшаліся таксама і мудрацы. Злучы ўсе кропкі па парадку, і ўбачыш, што асвятляла да ясляў Хрыста шлях трох мудрацоў. Размалюй.






У гэтую святую ноч усе анёлы свету спявалі прыгожую песню хвалы маленькаму Цару. Калі па парадку выпішаш усе літары з елачкі, зможаш прачытаць словы, якія спявалі анёлы, і да якіх, мы з табой таксама далучаемся.

### Заданне №4




Адказ: ______________________________

______________________________

______________________________

### Заданне №5

Мы святкуем Дзень нараджэння нашага маленькага Цара. Усе, хто прыйшоў пакланіцца Езусу прынеслі Яму свае падарункі.



Падумай, што ты б хацеў падараваць Езусу ў Яго Дзень нараджэння. Тут мы пакінулі месца, каб ты змог дамаляваць свой падарунак.



## Віншаванне ад «Пазнавайкі»

Дарагі наш маленькі сябра!
Віншуем цябе з Божым Нараджэннем і жадаем табе, каб маленькі Езус, Які нарадзіўся, прынёс табе сапраўдную радасць, супакой сэрца, і на ўсё тваё жыццё стаў тваім найлепшым сябрам!

**З Калядамі!**

*Мастачка: **Вольга Будкіна**; ідэя: **Вікторыя Колзун***




# У Мёрах пройдзе Фестываль рэлігійнай песні "Зорка Бэтлеема"

**Парафія ў Мёрах сардэчна запрашае дзяцей і моладзь да ўдзелу ў конкурсе, які адбудзецца 3 студзеня 2020 года.**

## Умовы конкурсу:

1 Да ўдзелу ў конкурсе запрашаем дзяцей і моладзь (адказнасць за непаўналетніх бярэ на сябе святар, манахіня або асоба, якая суправаджае).

2 Ацэнка магчымасцяў удзельнікаў будзе ажыццяўляцца паводле наступных узроставых катэгорый: 6 – 12 і 13 – 17 гадоў. Журы абавязкова ацэньвае змест песняў, артыстычнасць выканання, знешні выгляд удзельнікаў і г.д.

3 Прапанаваць сваю творчую працу гледачам і журы могуць: салісты, дуэты і музычныя гурты.

4 Усе ўдзельнікі павінны мець пры сабе тэксты і ноты да песняў, якія выконваюцца.

5 Заяўку на ўдзел у конкурсе трэба прыслаць не пазней за 20 снежня 2019 года.

**Падрабязная інфармацыя і запіс: +37529 216-02-86** альбо ***andrejkk2608@gmail.com – кс. Андрэй Кулік***

**Сардэчна запрашаем!!!**

**Больш навін, здымкаў і відэа на нашым сайце**

**Catholicnews.by**

# Запрашаем на конкурс батлеек у Віцебску!

8 студзеня 2020 г. у Віцебску.

Конкурс Батлеек будзе праходзіць ад 10.00 да 15.00.

**Месца правядзення конкурсу:** Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П.М. Машэрава *(пр-т Маскоўскі, 33)*.

Вялікая просьба паведаміць пра ўдзел у конкурсе па тэлефоне: +375295105172.

Працягласць выступлення на сцэне – **максімум 15 хвілін**!



# Ахвяруй на сайт Catholicnews.by, не выходзячы з дому

Дарагія сябры, ёсць магчымасць дапамагчы сайту Catholicnews.by фінансава.

Наш сайт абнаўляецца намаганнямі некалькіх чалавек. Рэдакцыя нясе транспартныя выдаткі, аплачвае паслугі хостынгу і інш. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай уласнага мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*375295105172*2# – калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі;

*363*375295105172*5# – калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў;

*(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання).*

Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*[код пацвярджэння]#

Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

Увага! Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

Больш падрабязную інфармацыю па правілах ахвяравання чытайце на сайце mts.by

Увага! Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС.

Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!



***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 7472

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2700 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 18.12.2019 г. у 10.50

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь